№ 4. Лістапад—Сьнежань Год I. 1929

# ШТОМЕСЯЧНІК БЕЛАРУСКАГА СТУДЭНСТВА.






ВІЛЬНЯ, Друкарня „ДРУК" Субач 2.

# ЗЬМЕСТ.





*Цана 400 марок.*

dep. 15 pal.

# НАШ ШЛЯХ

№ 3—4, год 1
Лістапад—Снежень.


*„Пара у рукі браць паходні,*
*Уставаць, ісьці, ноч разсьветляець!*
*Бо што ня возьміця сягоньня,*
*Таго і заутра Вам ня узяць.“*

Янка Купала.

*
* *

Розныя мамэнты бачацца ў жыцьці кожнага чалавека. Аднак найбольш цікаўным і важным з'ўляецца пэрыад, калі з на палову дзіцяці — хлапца тварыцца мужчына — чалавек, калі тварыцца выразныя ўжо фізыономія, калі можна з большаю ці меншаю пэўнасьцю сказаць якімі шляхамі гэтая адзінка пойдзець і што яна сама з сябе будзець і што дасьць людзям. Бачым ў гэныя мамэнты ваганьня, змаганьня вялікія, барацьбу вялікую, якую ён з сабою вядзець, шукаючы зусім пэўнага грунту пад сабою. І амаль ня заўсёды такі прыймае воблік на працяг ўсяго жыцьця, якім быў у апошні мамэнт тых сваіх змаганьняў. Пасьля трудна надта зварочвацца туды ці сюды. Чаму так робіцца а ня інакш — на гэта адказваюць ўсяляк, ня аднолькава. Мо гэта робіцца дзеля таго, што псыхіка у маладыя гады больш кволая і можа прыймаць у сябе розныя лёзунгі і гукі. І хутка ўжо неяк быццам дужае, становіцца больш магутнай і інэртнай да вонкавага жыцьця а йдзець сваімі собкавымі шляхамі. Ня ўваходзячы у надта дэтальныя ацэнкі гэткага з'явішча, прымем яго да ведама і пастараймося уцяміць нешта аналёгічная у большым маштабі, у працягу дасьпеваньня адзінак нацыянальных, цэлых народаў.

Бяручы рэч нармальна, па чалавецку, кажэм, што ўсё маець свой канец, а дзеля таго мусіць мець пачатакі і наадварот. Тут ня бачым ніякіх сумлеўкаў, яно для нас зразумела. Значыцца калі мы, Беларусы іструем, мусім мець недзе і пейкі пачатак. Знашоўшы той пачатак, простая цікавасьць можа нас давесьці да пытаньня, як далёкі гэны пачатак ад нас і можа прыйсьці думка згануць сваё сянняшнае палажэньня, мо нат бяз аглядкі на пачатак яго, а толькі у лятуценным захопленьні бачачы далёкі канец. Стоючы на гэным грунці будзем мусялі згадзіцца, што ўсё тое, што сустрэкаецца ў Беларусоў як адзінак і народу, нешта ня будзельнае а надзвычайнае. Пачынаючы ад нядаўняе пары пераживаем мы, быццам другі раз, а у сянняшнюй вопратцы, упершыню, што нам здаецца мы бачылі, ці толькі сьнілі надта далёка і даўно. Некалісь людзі змагаліся за свае правы жыцьцёвыя з аружжам у руках і дужайшыя, ці больш хітрыя здолялі заўсёды захапіць ў свае рукі валаданьне над слабейшымі, ці менш хітрымі, каб пасьля часта зьдзекавацца над імі. Так было калісь і з Беларусью. Гэткая вайна вядзецца і цяпер, толькі сяньня бязумоўна бачым ўсё у іншай форме, больш мо культурнай. Чалавецтва, у асобах лепшых людзёў, а за імі і дзяржаў у прынцыпе маюць кіравацца чымсьць іншым, нейкімі ня пісанымі правамі, ідэаламі, якія плывуць з тых ці іншых паняцьцяў. Праўда, што гэта толькі ў прынцыпе, а сапраўды надта часта бываець інакш. Трудна аднак штосьці тут зрабіць. Усёж такі сьвядомае беларускае грамадзянства маець магчымасьць як раз у цяперашні мамэнт, карыстаючыся з таго, што людзі, калі і сапраўды думаюць інакш, але мусяць датарнавацца да створаных формаў адносін паміж людзьмі, выказаць сваю

жыцьця здольнасьць. Маю тут на думцы выбары у Сойм. I неяк дзіўна стварылася, што у ва ўсіх частках Беларусі пад усімі валаданьнямі гэныя выбары праводзяцца у розныя парлямэнты. Гэта нейкі сымбаль ужо, можна бачыць, быццам, вышэйшую волю якуюсьці, якая падрыхтавала ўсё да гэтага мамэнту. Ня будзем зусім думаць многа мы правадзім сваіх прэдстаўнікоў у той ці іншы парлямэнт. Гэта меншая справа. Уся вага у тым, што мы зразумеліся што прызналі нас, а лепш сказаць, за, ваявалі мы сабе права выбіраць сваіх людзёў, якім мы верым. Маральны бок тут куды важнейшы ад усіх іншых. I на выбары мы ня будзем глядзець, як на эгзамін нашае нацыянальнае дасьпеласьці, бо кожнаму шчыраму грамадзяніну-Беларусу гэткіх доказаў ня трэба. Усім вядома у якой атмосфэры праходзяць выбары, зусім зразумела калі на сцэну кідаюцца клічы як найбольш дэмагогічныя з усіх бакоў, што калі пэўныя групы ставяць на сцэну толькі адно, скурнае пытаньне, што яны і могуць пацягнуць з сабою заўсёды інэртныя масы. Аднак нам усім, якія добра ведаем свой народ, мусіць быць вядома і яго душа і псыхіка. Калі яго цяпер і замануць на сьлізкія дарогі, то хутка ён ацьвярозее і зразумее ўсё. А раз уцяміўшы ня так лёгка пойдзець ён напрыгожыя, але пустыя словы, якія кідаюць яму цяпер ўсе тыя што, як вораны зьляцеліся, быццам убачыўшы ў Беларусаў Беларусі, падліну, з якое хочуць пажывіцца.

„Хто чым ваюе, ад таго і гіне гавораць нам старая і мінуўшая пара I ня раз было так, а заўсёды як можа кожны з нас сабе сказаць, глянуўшы хацяб на сабе ці на сваіх суседзяў. I дзеля таго, ня павінны мы пярапуджвацца таго балота, якое хочуць стварыць тыя чорныя сілы, што хочуць загнаць нас у прыгон. Мы маем за сабою цяпер праўда толькі адны, ідэалы.

Рэальная наша сіла з'явіцца пазьней. Але яна зусім пэўна, яна нас не падмане. I няхай глянуць на сябе ўсе тыя крукі, што каркаюць кожны на свой спосаб па цэлай Беларусі, каб ня збудзілі гневу нуроду, бо народ цярпіць доўга, ён спакойны, але суд бывае страшны. Суд такі кончыцца морам сьлёзаў і крыві. Добры дух у такія мамэнты ўцякае, астаецца толькі пачуцьце крыўды і зьдзеку...

Мы ня грозім, а толькі паказваем, што з вялікаю пэўнасьцю кажам, можа быць. Мы ня палітыкі, мы вучашчаяся моладзь, мы толькі сыны нашага народу, можа толькі чуем горача пяшчасьце нашых бяздольных бацькоў і братоў. Аднак і мы людзі і мы сыны нашае Бацькаўшчыны і ня забывайцеся аб тым. Мы хочам трымацца нашае, собкае арыэнтацыі, калі ўсёж уваткнеце аружжа нам у рукі будзем бароцца і барацьба можа быць страшнаю, барацьба ад якое падымаюцца валасы на галаве і кроў затрымоўваецца у жылах.

**С. Дрыгуновіч.**

# Нашыя Прозьвішчы.

I. Найстарэйшыя й найбалей арыгінальныя беларускія прозьвішчы з канчаткам на —іч (Савініч, Бобіч, Смоліч, Бабіч, Ярэміч). Прозьвішчы гэтыя пачылі ўжывацца яшчэ ў радовую пару жыцьця беларускага народу. Тыя, што былі з роду Смалы, сталі звацца Смолічы з роду Бабі (Боб) — Бобічы, з роду Бабы-Бабічы. Гэткія-ж канчаткі на іч маюць назовы ўсіх беларускіх плямеьняў (Крывічы, Дрыгвічы, Радзімічы).

У Беларусі вельмі шмат мясцовасьцяў на —ічы (Бялынічы, Ігнацічы Ярэмічы), усе яны вельмі старыя і абазначаюць бацькаўшчыну роду. Прозьвішчы на —іч і мясцовасьці на —ічы гусьцеюць, пачынаючы з Дзісьненскага павету Віленшчыны, яшчэ балей іх на захадзе, паўдні і цэнтры Віцебшчыны, а магчыма, што гэткіх прозьвішчаў даволі і на паўднявым усходзе Віцебшчыны, густа яны па ўсёй Магілеўшчыне, а патроху сустракаюцца і па ўсёй Беларусі.

З усіх Славян, апрача Беларусаў, прозьвішчы на —іч маюць толькі адны Сербы (Паміч, Нінчіч).

Побач з прозьвішчамі Смоліч-Смаляціч і г. д. —віч маем прозьвшчы, Смолевіч, Кляновіч, Родзевіч Бабровіч

і г. д. мясцовасьць Смолевічы і г. д. Прозьвішчы на —віч вельмі старыя, але менеи старыя як папярэднія. У канчатках —овіч, —евіч з паняцьцем (паймом) радовасьці злучана яшчэ якось паняцьце прыналежнасьці (Бабр —ов-іч).

Гэткія прозьвішчы, як Пятровіч, Дзямідовіч, Вайцюлевіч і г. д. паказуюць, што закладчыкі гэтых радоў былі, ўжо хрысьцяне а гэткія, як Ахматовіча што іхныя закладчыкі былі мусульмане, бо Ахмат імя мусульманскае. Такія ж прозьвішчы беларускіх мусульман, як Родкевіч, значыцца прозьвішчы ня толькі з беларускімі канчаткамі, але і з беларускаю асноваю, паказуюць, што закладчыкі гэных родаў былі Беларусы, якія самі, ці якіх патомкі прынялі іслам.

Ня ўсе Родкевічы і магамэтане, часьць іх, як прыкладам тыя, што жывуць у Менску, каталіцкае веры. Гэткія магамэтане-Беларусы пэўна прынялі іслам да пашырэньня хрысьцянства ў Беларусі, калі ісламскія ўплывы былі вялікшыя за бізантыцкія або як гэтыя ўплывы ходаліся паміж сабою, значыцца ў IX-X в.в.

Есьць прозьвішчы жыдоў з беларускімі канчаткамі на —віч, а з асноваю жыдоўскаю або нямецкаю (Рубіновіч, Рабіновіч, Маўшовіч). Гэта тыя прозьвішчы, што ўтварыліся ў жыдоў на беларускім грунце.

Прозьвішчы на —віч пашыраны па ўсёй Беларусі (чы і вічы складаюць 36-35 проц. усіх беларускіх прозьвішчаў. Прозьвішчам на —віч адпавядаюць назовы мясцовасьцяў (вёскі, мястэчкі месцы) на —вічы Куцевічы (націск на у), Попелевічы, Дунілавічы, Асіпавічы Клімавічы (у трох апошніх націск на і).

Апрача Беларусоў прозьвішчы на —віч маюць толькі Сэрбы (Становіч).

Прозьвішчы на —віч напару завуць літоўскімі. Пайшло гэта адтуль, што калісь т. зв. Літоўскае Гаспадарства абымала ўсю Беларусь, і Беларусы былі асноваю і ўсё істотаю яга, а сама Жамойць ці пацяперашняму „Літва“ была невялікаю аўтаномнаю часткаю гэнага гаспадарства Званьне беларускіх прозьвішча літоўскімі — гэта такое-ж недаразуменьне ў назовах, як і званьне беларускіх кілбас і сланіны літоўскімі, тыпічных беларускіх назоў літоўскімі, як Менск Літоўскі, Каменец Літоўскі, Берасьце Літоўскае і г. д. З такім-жа правам можна зваць і ўсю Беларусь Літвою.

Дзіўна бывае чуць, калі гэтыя найарыгінальнейшыя і найхарактэрнейшыя беларускія прозьвішчы напару завуць польскімі. Палякоў з такімі прозьвішчамі зусім няма. Розныя Міцкевічы Сенкевічы, Кандратовічы гэта Беларусы. якія тварылі пэрлы полькае культуры. Калі прагледзіць, прыкладам сьпісаньпе сяброў польскіх таварыстваў у Польшчы, дык побач з чыста польскімі прозьвішчамі і многімі нямецкімі толькі дзеве-дзя надзвычнйна рэдка сустракаецца прозьвішча на —віч і заўсёды можна давесьці, што валадар яга Беларус. Прозьвішчы і наагул словам на —віч зьяўляюцца ў польскай мове зусім чужымі. Нат' такое слова, як królewicz зьяўляецца беларусізмам з опалячанаю асноваю. Паняцьце аб польшчыне гэтых прозьвішчаў пайшло таму, што Беларусь ад 1569 г. да разьдзелу Польшчы была складоваю аўтаномную часткаю ўсяе фэдэрацыйнае польскае Рэчыпаспалітае, а яшчэ балей таму, што апалячаныя беларускія магнаты (Ходкевічы, Хрэбтовічы, Валадковічы, Ваньковічы) вадзілі рэй ува ўсім польскім гаспадарстве.

Згодна з духам беларуске мовы назовы дынастный па-беларуску павінны канчацца на —віч. Трэба казаць: Рагваладавічы (беларуская цынастыяў Рагвалада Полацкага), Усяславічы (беларуская дынастыя Усяслава Вялікага), Гэдымін авічы, Ягайлавічы (а не Ягелоны) Пястов чы, Прамысловічы (чэская дын. Прамысла), Арпадавічы (угорская дынастыя). Сасановічы (дын. нова-эпскага, гаспадарства), Фраціновічы (эгіпецкая мусульманская дын.,) а не якіясь Прамысьліды, Сасаніды, што гучыць дзіка ў беларускай мове.

II. Прозьвішчы на скі, —цкі лёкальныя. Утварыліся яны ад мясцовасьцяў. Хто быў з Дубейкава, той стаў Дубейкаўскі, хто з Сухадолу — Сухадольскі, хто жыў ля возера — Азерскі, за ракою — Зарэцкі, за лесам — Залескі і г. д. Зубоўскі, Дубіцкі Сасноўскі. Студэнта які вучыцца ў Вільні, назавуць віленскі, а які ў Празе праскі і г. д.

Як ужо зьявілася шмат мясцовых беларускік прозьвішчаў на —скі, —цкі, дык падобныя да іх новыя маглі тварыцца па аналёгіі (Жукоўскі Ластоўскі).

Прозьвішчы гэтыя як старыя, так і новыя. Пры гэтым, калі старыя, цык яны звычайна належылі людзём крыху ведамым, значыцца баярам ці шляхце, бо каб называць па мясцовасьці, трэба каб чалавек быў крыху ведамым, каб было ведама скуль ён. Але новыя прозьвішчы на —скі, —цкі належаць аднолькава ўсім клясам, навет жыдом. Раска-

зваў мне адзін гаспадар гэтакае. Ля м. Ашмяна за гарой жылі жыды. Як выйшаў загад ад расейскае ўлады пазапісываць усіх жыхароў, дык ў канцэлярыі аказалася, што гэныя жыды ня мелі ніякага прозьвішча, проста дзед називаўся Ліпка, бацька Бэрка, сын Шымель і г. д., але прозьвішча ня мелі. Ня ведалі як іх запісываць. Але выручыў адзін сусед — Беларус, які неўспадзеўкі аказаўся „Дык гэта-ж. кажа загорскія Жыды. „Так іх і запісалі „Загорскі“.

Прозьвішчы магамэтанскае шляхты ў Беларусі на—скі,—цкі аднача сна з беларускаю асноваю (Карыцкі і інш.) паказуюць як і прозьвішчы тыпу Радкевіч, што гэта магамэтане не татарскага, а беларускага роду.

Прозьвішчам на—скі—цкі адпавядаюць беларускія пазовы мясцовасьцяў на—шчына (Сакоўшчына, Казароўшчына).

Прозьвішчы на—скі,—цкі Беларусы маюць каля 12 проц.

Прозьвішча на—скі,—цкі. як утвораныя ад мясцовасьцяў, сустракаюцца ў усіх славянскіх народаў. Гэтак, апрача Беларусаў, у Палякоў (Dmowski), Чэхаў (Dobzorsky, Palacky), украінцаў (Грушевський). Сэрбаў, Баўгар, і Маскоўцаў.

Гэткія прозвішчы на—скі,—цкі, як Успенскі, Багародзіцкі, Архангельскі, царкоўнага паходжаньня і аднолькова могуць быць ува ўсіх праваслаўных Славян.

III. Калі прозвішчы на—іч,—віч, абазначаюць род, прозьвішчы на—онак, —енак, (Юлючонак, Лазічонак, Арціменак),—чык,—ік, (Марцінчык, Аляксейчык, Іванчык, Язэпчык, Сяменік), у к,—ю к, (Кухарчук, Міхалюк, Аляксюк, Алексяюк) абазначаюць сына, а прозвішчы на—еня (Васіленя) наагул дзіця (дзіця Васіля).

Прозьвішчам на —онак,—енак, —еня адпавядаюць беларускія назовы мясцовасьцяў на—няты (Піліпеняты, Загорняты, Каеценяты, Трасеченяты, Біцяняты).

Прозьвішча на—онак,—енак,—еня, чык,—ік, характэрна беларускія і агульна-народныя ў Беларусоў, хоць і не такія старыя, як—іч і віч.

Прозвішчы на—онак,—енак, маюць толькі адны Беларусы.

Беларускім прозьвішчам на—онак, енак, адпавядаюца у Украінцаў прозьвішчы на—енко (Чэркасенко, Деміденко), а ў швэдзкай, англіцкай, і іншых германскіх мовах празьвішчы з канчаткамі на son (сын)—Sokhobenson, Tohzbeenson а прозьвішчам на—еня адпавядаюць грузінскія з канчаткамі на — швілі (Рамішвілі)

Прозьвішчы на—онак,—енак пашыраны найбалей у Дзісьненскім пав., яшчэ балей у Віцебшчыне, мо крыху меней у Магілеўшчыне і ў усходняй часьці Меншчыны. Есьць яны і на ўсёй Беларусі.

Прозьвішчы на—чык,—ік раськіданы па ўсей Беларусі. На—еня, ук (юк) найбалей у Горадзеншчыне.

IV. Далей ідуць прозьвішчы, што прыняты з назоваў розных прадметаў (Зуб, кніга, Качарга, Бубен, Сак, Шышка, Шыла), расьлін (Капуста, Рэдзька, Бурак, Гічан, Груша), птушак (Верабей, Бусел, Сарока, Сініца), наагул жывёлы (Кароўка), дні тыдня (серада), сьвяты (Вялікдзень, Каляда), імені людзей ставаліся прозьвішчамі (Сяргей, Барыс, Гардзей), сюды аднесяцца й такія прозьвішчы, што быццам характэрызуюць чалавека. Гэтак паводле слоў пароцька (той хто порыцца), лянуцька (хто лянуецца), забудзька (хто забываецца), ё прбзьвішчы Будзька (хто будзіць), Сапоцька (хто сапе), і далей Родзька (ад радзіць), Ходзька (ад хадзіць), Хоцька (ад хацець) і шмат іншых, падобных гэтым прозьвішч м.

Прозьвішчы гэтыя, як старыя (Воўк, Кішка), так і новыя. Сустракаюцца яны па ўсёй Беларусі, іх будзе каля 10—12 проц. усіх беларускіх прозьвішчаў.

V. **Прозьвішчы з канчаткамі на—оў,—еў,—ін** лучаюцца ў Беларусаў пачынаючы з усходу і поўначы Віцебшчыны, з усходу Магілеўшчыны, вадта густа гэтыя прозьвішчы ё ў Смаленшчыне і беларускіх часьцях іншых губэрняў (Цьверскае, Пскоўскае і інш.). Дзе-ня-дзе могуць лечыцца ў цэнтры і на захадзе Беларусі. Узнімаецца пытаньне, як гэтыя, характэрныя Маскалём і Баўгарам прозьвішчы, маглі паўстаць у Беларусоў?

Наўперад трэба зьвярнуць увагу, што гэтыя беларускія землі доўгі час (каля 300, 400, а некатарыя нат каля 500 год) былі пад маскоўскаю ўладаю, што будучы пад Маскоўшчынаю яны ўпраўляліся не аўтаномна,а з маскаўскага цэнтру. Трэба думаць, што ўжо ў даўнейшую пару маскоўскага гаспадараньня ў гэтых беларускіх землях, не паважаючы іншых асаблівасьцяў беларускіх зямель і народу, Маскоўцы не паважалі і асаблівых беларускіх прозьвішчаў, перакручуючы іх на свае шаблённыя з канчаткамі на —оў,—еў,—ін. Цікаўна, што калі наш друкар Федаровіч зьявіў-

ся ў Маскву, то яго назвалі там Федоров. Як перакручана прозьвішча Федаровіча ў Маскве, так перакручвала маса іншых беларускіх прозьвішчаў на беларускіх землях, залежных ад маскоўшчыны*) Гэткім парадкам Беларусы гэтых зямель мелі якісь час па два прозьвішчы—адно, якое яны самі ўжывалі, другое—якое знала ўлада. Іначай кажучы „зваліся" адным, а „пісаліся" другім прозьвішчам. З часам аднак гэтыя апошнія пісаныя „праўныя" прозьвішчы ўзялі верх. Валадары і дзеля сваіх-жа інтарэсаў мусілі гэныя пісаныя прозьвішчы помніць. Гэткім парадкам Барысевічы сталі Барысавы, Грахімовічы—Трахімавы, Сапранкі—Сапранковы і г. д. Але там, дзе з старым родным прозьвішчам была зьвязана сямейная традыцыя там-жа ўпорна дзяржаліся і гэткія нацыянальныя прозвішчы, захаваліся ажно дагэтуль у найдалейшых усходніх узьмежках Беларусі.

Найвялікшае аднак нішчэньне беларускіх прозьвішчаў у ўсходняй Беларусі прыпадае на XIX век і завяршылася яно ў XX в.

Сыстэматычна русыфікуючы Беларусь, маскоўская ўлада сыстэматычна русыфікавала й беларускія прозьвішчы.

Няма дзіва, што маскоўцы абмасковілі часьць беларускіх прозьвішчаў, калі на'т такім далёкім Маскоўцам па мове (не па крыві) народам, як чувашы і Казанскія Татары, яны абмасковілі ўсе прозьвішчы. Дзеля таго, што Татары мусульмане, у іхніх прозьвішчах пры намсі карані асталіся мусульманска татарскія (Балеев, Яманов, Ахмадянов, Хабібулін, Хайрулін). Чувашы, што нядаўна ахрышчаны ў праваслаўную веру маюць усе прозьвішчы чыста маскоўскія ды дзеля таго, што хрысьцілі масамі і найчасьцей чамусьці давалі імя Васіль або Максім, то цяпер бальшасьць чувашоў маюць прозьвішчы Васільев або Максімов. З гэтымі Васільевамі і Максімавамі часта бывае чыстая бяда, іх так многа, што цяжка разабрацца.

Русыфікацыя беларускіх прозьвішчаў адбывалася, як па загаду, так і вынікала з агульнага русыфікацыйнага кірунку адміністрацыйнае і асьветнае маскоўскае палітыкі ў Беларусі. Гэтак, у воласьцях па загаду пераменялі цэлыя масы беларускіх прозьвішчаў на маскоўскія, але ў тых-жа воласьцях падобная перамена рабілася і без загаду. Гэткі валасны пісар (дый іншае начальства), хоць добра знаў розныя беларускія прозьвішчы, але лічыў „нехарошымі", а, яшчэ важней, часта „няправільнымі" гэныя прозьвішчы ў іх звычайнай беларускай вымове, а дзеля таго, што пісаць мусіў па маскоўску„правільна", дык паправяў памагчымасьці нашыя прозьвішчы, запісваў іх „правільна" рабіў гэта часта ў добрай волі.

З пашырэньнем украінскага руху украінскія прозьвішчы на—енко здабылі сабе ў расейскага начальства, а ў тэй лічбе і ў беларускіх валасных пісароў і іншыхураднікаў, права грамадзянства, пачалі так сама лічыцца „правільнымі" і тыя-ж пісары, зьмяняючы адны беларускія прозьвішчы на маскоўскія з—ов, ев,—ін, адначасна іншыя зьмянялі на—ко, гледзячы да чаго было бліжэй. Гэтак з сына Цярэшкі, Цярэшчанка (Цярэшчанак або Церашчонак) стаў Терещэнко, з Зьмітронак — Зьмітренко (ці яшчэ „правільней"—Дмітріенко), з Жаўток—Желтко. Усе прозьвішчы Беларусаў на—енко перакручаны з беларускіх прозьвішчаў на — онак, — енак. Бывае, што тут захоўуецца падвойнасьць — завуць усе, прыкладам Дударонак ці Жаўток, а запісаны „правільна" ў воласьці Дударенко, Желтко.

Як стала ў нас у пашане і модзе ўсё чужое, а сваё пайшло на зьдзек, дык некаторыя Беларусы самахоць, з собскае ініцыятывы зьмянялі свае прозьвішчы на модныя, чужыя, „панскія". Асабліва гэтак былі зьменяны прозьвішчы, абазначаны ў пункце IV, значыцца прозьвішчы—назовы розных прадметаў, жывёлы і г. д. Лічылі, што няхораша называцца Сокал, Сініца, Салавей, Сарока, Гардзей, Качарга і зьмянялі на Соколов, Сініцын, Соловьев, Сорокін, Гордеев, Кочергін, а Сакалёнак на Соколенко або робілі іх бяз сэнсу, гэтак. Груша стаў пісаць сваё прозьвішча Грушо, Фарботка—Форботко, Мурашка—Мурашко, Варонка—Варонко, Ходзька—Ходзько, некатарыя Шылы сталі пісаць сваё прозьвішча нераз два л (Шылло). Тойжа, хто „далікатнасьць" бачыў у польскім баку, зьмяніў сваё прозьвішчаў, прыкладам Трэска, на Trzaska. Так сама зьмянялі прозьвішчы на прозьвішчы з канчаткамі на—скі, якія хоць і беларускія, але не характэрна беларускія, бо яны, як мясцовыя, ня толькі беларускія, але й іншых славян і дзеля гэтага не падпалі пад тую агульную зьнявагу ўся-

*) Гэтае маскоўскае ненавіджаньне беларускіх асаблівасьцяў выплывала з агульна-маскоўскае псыхологіі, нівэляцыя рабілася ня толькі у беларусі, але і у іншых чужанародных землях Маскоўскага гаспадарства; гэтак, прыкладам, абходзіліся з заваяваным казанскім царствам якое было таксама культурна вышэй за тагочасную Маскоўшчыну.

го нашага нацыянальнага, якая стала звычайнаю ў часе нашага палітычнага і нацыянальнага ўпадку. Як на прыклад пакажу на гэткі сьмешны прыпадак, знаў я аднаго гаспадара, прозьвішча якога было Відук (гатунак маку з вялікімі макаўкамі, цьвіце ён чарвоным цьветам). Разбагацеўшы, купіў ён сабе дваранскія паперы і падаў пр сьбу ўладзе, каб зьмяніць яму прозьвішча Відук на Макоўскі. Просьбы яго паслухалі і зьмянілі прозьвішча на падвойнае—Відук-Макоўскі.

Калі прозьвішчы на—іч,—віч абазначаюць род, на—онак,—енак,—сына, дык прозьвішчы на—оў,—еў,—ін абазначаюць прыналежнасьць, гэта прыметы, што адказуюць на пытаньне чый? Чый (чыя) ты?—Ильин (Ильина), Дроздов (Дроздова) і г. д. Гэткія прыметы маюць ня толькі адны Маскоўцы і Баўгары, а і ўсе іншыя славяне (Палякі, Чэхі, Украінцы, Сербы). Маюць іх і Беларусы. У нас звычайна кажуць Янук Лявонаў, Нінка Лявонава, Пятрук Адамаў і г. д. дзе словы Лявонаў, Адамаў абазначаюць, што ён належыць да Лявона, Адама, звычайна сын ці дачка Лявонава і г. п. Прыналежныя прыметы прыходзіцца ўжываць дзеля адрозьненьня, бо звычайна Янук, Пятрук г. п. у весі бывае не адзін, а многа, дадаваць-жа прозьвішча не заўсёды бывае добра, бо гаспадароў з аднолькавымі прозьвішчамі найчасьцей у весі бывае некалькі. У гэтым прыпадку розьніца паміж Маскалямі і Баўгарамі з аднаго боку, а іншымі Славянамі з другога, тая, што ў апошніх гэтыя прыметы звычайна прозьвішчамі не становяцца.

Дзеля таго, што ў нашай мове, як і ў іншых славянскіх мовах, ё прыметы на—оў,—еў,—ін, у нас пад маскоўскім уплывам маглі паўставаць, (а ня толькі быць перакручанымі ці накінenымі) свае беларускія прозьвішчы на—оў, еў,—ін. У гэтым апошнім прыпадку беларускія прозьвішчы на—оў,—еў,—ін, у значэньні іх беларускасьці розьняцца тым ад іншых беларускіх прозьвішчаў, што яны не зьяўляюцца характэрнымі для беларусоў.

Прозьвішчы на—оў,—еў,—ін, у Беларусоў новыя.

Пaдсумоўваючы ўсё сказанае аб прозьвішчах на—оў,—еў,—ін, трэба сказаць каротка: Гэтыя прозьвішчы сталіся 1) наследкам перакручэньня або замены маскоўскімі ўраднікамі беларускіх прозьвішчаў, 2) некаторыя Беларусы апошнімі часамі самахоць іх перакручвалі на модныя маскоўскія і 3) яны маглі адчасьці паўставаць на беларускім грунце, але пад маскоўскім уплывам. Прозьвішчы гэтыя новыя і не зьяўляюцца характэрнымі для Беларусоў.

Прозьвішчаў гэтых ё ў Беларусаў 15—20 проц.

Прозьвішчы на—оў,—еў,—ін зьяўляюцца нацыянальнымі ў Маскоўшчыне і Баўгарыі. Прыблізна гэтулькі, колькі ў Беларусаў, ё гэтых прозьвішчаў у Украінцаў (Ефремов, Сумцов), дзе яны маюць гэткі характар, як і ў нас.

**Крывіч.**

---

*) Слова „прозьвішча“ у некаторых мясцох ужываецца ў значэньні, так сказаць, незаконнага прозьвішча, але у іншых мясцох нашае Бацькаўшчыны, прыкладам у пав. Менскім, ужываецца яно у значэньні прозьвішча законнага, як памаскоўску „фамилия“, а папольску „nazwisko“. Ужываю у апошнім значэньні. Дзеля абазначэньня-ж незаконнага прозьвішча трэба ужываць слова мянюшка, як кажуць у Горадзеншчыне, Лацінскае, слова familia (значыць сямья), калі і ужываць дык у такім значэньні, у якім ужывае яго наш народ і значэньне гэтае бліжэй да арыгінальнага і абазначае усю радню, значыцца калі якога, прыкладам Станулевіча, завуць яшчэ Канцавы, дык Станулевіч — прозьвішча, Канцавы — мянюшка, а усе с ае паміж сабою Станулевічы будуць фамілія або проста радня.

# ЗЕРНЯ ПШАНІЦЫ.

Восянь. Шэры, халодны дзянёк, Чырвона-залатыя лісточкі ў дзіўным, лятуценным шапаценьні вісяць у паветры і падаюць на голую чорную зямлю. Дрэвы навакол чырванець, быццам аблітыя крывёю, дзікі вінаград іскрыцца колярамі радугі. Імгла падымаецца ня хочучы, па маленьку, астаўляючы на сабе шнуркі серабрыста-белых пэрлаў.

На балоцістай з ямамі і калдобінамі дарозе, гінуўшай недзе далёка-далёка у полі то воз паказваўся сялянскі з вывярнутаго паліцаю плуга (сялянін змёрзшы ляціць каля вазу і грэе сабе рукі), та зноў нейкая з'ява з шапкаю, с пад якое відаць толькі канчыкі носа і барады, з сумнымі ўздыханьнямі, якое так і замірала у грудзях не пабачыўшы сьвету. Было нешта у самой прыродзе, што сумавала лятуцела

і плакала; і летуценьне ня тое, якое бачыцца у людзёў, якіх завуць—паэты, тыя, што прыбраўшы свой сум у прыгожую вопратку-рыфмы, звонячь пасьля ў кішанёх залатаўкамі, больш для іх мілымі, але той глыбокі, захопліваючы чар, рэчаў мінаючых і быццам добра разумеючых сваю бязсільнасьць, сваю немагчымасьць.

* * *

У гэтакі дзянёк выйшаў чалавек каб пасеяць на полі ў сябе. Ішоў ён памалу, бо цяжкі мяшок ён меў у свайго боку, а рука, якою матка вучыла жагнацца, а бацька, які хлеб рабіць чорны, сыпала на зямлю круглыя, залатыя зерняткі.

Палоска яго вузенькая, як усе сялянскія палоскі, чорная і абмяжованая доўгімі разорамі, якія ішлі роўненька адна пры адной, як родныя сёстрачкі. Здавалася сейбіту, што палоска яго звужываецца неяк з аднаго канца ў другі і канчыцца амаль што ня клінам. Але ён прывык ужо да таго, бож і доля многіх людзей такіж самы клін, гостры клін!

Вось йшоў ён да таго канца, які маніўся яму быць каротшым ад рэшняга поля, а ўсёж гэтак ня было, бо калі ён аглянуўся, здалося яму, што той канец, скуль ён прыйшоў, нейкі вускі. Йшоў ён зноў назад. І ня раз, ня два, а дзесяць, многа разоў па дзесяць варочаўся ён туды і сюды, а клін той ўсё пашыраўся, а поле тое ўсё звужвалася. Выглядвала, што шукаець ён кута таго таёмнага і знайсьці яго ня можэць.

Сколькі-ж людзёў праводзіць так свой век. Шукаюць чагосьці, што ад іх за морамі, а знайшоўшы, назад аглядаюцца і, бачучы тое, што пакінулі, варочаюцца да яго, бо цягнець іх туды з магутнаю сілаю. І жыцьцё канчыцца ім у гэткай вандроўцы туды і сюды, жыцьцё ўцекаець... І нідзе яны ня трафяць, нідзе не запаляць сваіх вогнішчаў з карысьцю сваею і іншых, ня знойдуць хвіліны цішы, супакою... І апошняя гадзіна бачыць іх бязсільных, змучаных у гэтай цёнглай, дарэмнай вандроўцы, быццам ачарьвела за нейкія віны пагоні.

Але наш сейбіт быў іншым.

Ен усё ішоў, раз за разам, баразна за баразною ступаў па сваей палосцы, гледзячы ўсюды з аднолькаваю ўвагаю і каханьнем, каб зерня яго ўпала і сеяў ён добрыя, поўныя зачарованае сілы і магутнасьці і Боскага благаслаўленьня зерня і йшоў раз за разам...

* * *

І вось зернятка тое апынілася само, адное, ўціснутае паміж дзьвюма грудамі чорнае, макраватае зямлі. Сэрца яго сьціснулася ад вялікае трывогі і жаху.—Пад вечар пачаў імжыць маленькі, але густы дожджык, зямля зусім размокла і зерня схавалася яшчэ глыбей. Нідзе і ніколі ня было яму так цёмна і так мокра, і так якосьці ні па сабе! І маілася яму, што гэта ўжо канец, што сьмерць страшная прыходзіць

Гінуць і так дрэнна згінуць бяз сонца і паветра, якіх знало зерня яшчэ з тэй пары, калі яго так грэлі і гэйдалі высока паміж небам і зямлёю, згінуць бяз кветак і птушак, усяго таго, з чым былі злучаны ўсе яго ўспаміны найлепшых дзён...

І засумавала яно, заплакала пад хаткаю сваею, якая яму даражэйшаю прыгажэйшаю за ўсе скарбы і харомы... і над каласістай сваёй сямьёй, якой сябров усіх даражэнькіх разагналі каго куды, ў незнакомыя ваколіцы.. І пачало зерня ўспамінаць сваю дзіцячую пару і пачало плакаць ад шчырага, шчырага жалю: вялікі, вагромністы палетак, а ўсюды каласы, ўсюды зерняты... каласы высокія, зялёна-залатыя, родныя... схіляюцца пругка, а падымаюцца адразу стаўком... А гляпуць ў гару... там блакіт, быццам сіняя гара, разцягняная да верхаў гораў, да канчыкаў дрэва... Там залацісты бажок, сонка вясёлае, прыгожае і такое добрае што няма як і сказаць... там ластаўкі лётаюць і пяяньне іх чуецца тах блізка сэрца і так звоніць, так звоніць...

Пачынаўся вечар: на краю кругавіду паказаўся месячык, такі ціхенькі, добры пастыр авечак, якія ганяюцца адны за другімі па небу, і зерняў, дрэмлючых у сваіх каморках—сторож... тады раса выпала сьвежая і бязпечныя перапёлкі струхвалі пад час сну ў ёй свае крыльля...

Дзе, а дзе-ж, ты, тая мілая пара, як гэты чорны хлябок, такія добрыя, так цягнучыя да сябе маладую кволую душу зернячці!!! Цяпер, перад гэтай апошняю, што падыходзіць хвілінаю, я ўспамінаю пэўныя мамэнты...

Пара вайны! Прышоў страшны дзень... зазваніла халодная каса, бліскучая і в гоманам і сьвістам, які і цяпер чую яшчэ ў вушах, сьцежку сабе цярэбіць сярод густога лесу каласоў... потым прышлі граблі... Зьвязалі каласы, як паднявольных прыгоньнікаў... і ва

зам і з пяяньнем гымнаў трыумфу павязалі, загналі ў пaлон... а места дзе расьлі асталося пустое... ляжаць толькі дзе ня дзе на зямлі каласы, ўзіраецца крыва асот і базяк, хістаецца кукамі і мак... а ўсёж і там было добра... стольскі братоў і сёстраў, шмат каго і чужых, з далёкага мо краю... жыта, аўса, ячменя... Прышла пара аднак, пара страшная разьвітаньня... цапы разьдзелілі нашу сямью... зерняты сыплюцца, сыплюцца ня обачацца ўжо з сабою ніколі, о ніколі! Але затое ў мяшку саўбунь чуюцца цікавыя гутаркі, апошні раз ужо ў жыцьці, навіны..., кожны аб сабе нешта гаворыць, і супольную бяду цягнуца яшчэ памаленьку, о-х! супольную бяду а так супольную... о! о!..

Далей зерня не магло думаць. З ім рабілася штосьці дзіўнае... ах! так, бязумоўна канец падыходзіць... яно надрысоўвало што раз больш раскідваецца... набірае ў сябе многа зямлі. Крычыць апошні раз у розпачы вялікай... на што я на сьвет гэты прышла, радзіцца ў такім шчасьці, калі такая мая сьмерць? Па што?—ох па што гэта было!?"

— Што такое?.. нейкі голас... блізкі, што быццам, ад сэрца йдзе, як бы ён быў у ім, ці зусім блізка каля яго, а ўсёж меў ён права ўладаці ім, як сваёю ўласнасьцю—голас, што кідаець у пропасьць і адначасна надзяляе вераю бязмернаю і каханьнем добрым: „Павер мне! Служы мне ўжо да канца, выцярпі ўсё на сваёй дарозі, а яна завядзе цябе да славы. Бо я цябе сатварыў, я цябе пільную і ты далёка ў сэрцы маём". І зерня плакаць перастала, і ў рукі таго, што так гаварыў, аддало перад сьмерцьцю сэрца сваё, бо зразумела, мо пачула, што ўсё яго собкасьць мела яно чыстае сумленьня і супакой.

* *
*

Вясна. Сонко сьмяецца, яго дабрадзейныя коскі падаюць на маладую пыхцеўшую красой і вясельлем зямлю. Яна ўся адмаладзілася, прыхарашваецца. Дрэвы трэскаюць, кветкі цьвітуць, птушкі лётаюць і пяюць на выперадкі, а людзі ўглядаючыся на ўсё гэта з-радасьцю, гавораць сабе: „Вясна йдзе, вясна!" Усё жывое наладжваецца да вялікае сымфоніі адраджэньня.

А зерня наша?! О! гэта ўжо ня тое кругленькае зернятко! Гляньце! Там па зялёнай ніве, між брацьмі сваімі і сёстрамі, той такі здаровенькі каласок, такі мілы, прыгожанькі. Гэта-ж яно, наша зерня, зерня таго сеўбуна, што сеяў добрае зерня і хадзіў па сваём полі раз за разам, ад канца да канца...

А голас чуўся цяпер не ад сярэдзіны ўжо, але быццам галасіў з адусюль і з верху, і з падысподу і з усіх бакоў, быццам быў у сьвеці і ня быў сьветам і меў право ўладаць ім гаспадарыць, як собкасьцю сваею... голас, што кідаець у пропасьць і адначасна падзяляе вераю бязмернаю і каханьнем добрым:

„Сапраўды, кажу я вам, есьлі зерня пшаніцы кінутае на землю, а ня датарнаванае. каб асталося і было для зямлі, ня ўглыбіцца ў сябе і не памрэ ў сабе, ня зродзіць пакаленьняў сваіх і ня будзець жыць. А калі увойдзе і памрэ—жыць будзець і ўмалот дасьць многократны, бо я яго паказаў ў вечнасьці і я яго каханю"...

Пераклад з ... С. Радзіміч.
Горадня 24. VI. 22 г.

# Праз Беларускасьць да чалавецтва, ці праз чалавецтва да беларускасьці

Увесь час нам, беларускай сьвядомай інтэлігенцыі, прыходзіцца сустракацца з дзіўнымі падчас адносінамі да нашае работы ў нацыянальным напрамку. Адносіны тыя у тых і іншых людзёў прыймаюць розны воблік, розную форму, аднак сутнасьць іх у прынцыпі тая самая, гэта найменш інэртнае становішча, пагляданьне спакойна з боку на нашае змаганьне і выжыданьне тых мамэнтаў, калі будзець зусім ясна, што рабіць, якое трымацца арыентацыі. У розных тых формах можам абачыць гэныя голоўныя галіны, быццам: 1) заграніца, якая зусім мала што разумеець і ведаець аб справох славяншчыны, якая ня ведаець нічога аб жыцьці нат тых народаў славянскіх, якія выказалі сябе 'эбольш мнш у такі іці іншы спосаб на пляцформе ўсясьветнае гісторыі (Расея Польшча) і тым балей аб нас, якія ня з'яўляем для іх капіталаў выгаднай л ё к а т ы (інакш робіцца з Украінай, дзе аграмадныя нацыянальныя багацьця кажуць ім паставіць якнайхутчэй выразные вехі адносін да нацыянальнасьці і гаспадарственнасьці), 2) нашая краёвая інтэлігенцыя і поўінтэлігенцыя, якая выйшла з гушчару народнага і 3) вялікія масы людзёў, якім да нашае пары зусім былі чужыя лёзунгі і гукі, йшаўшыя ці то ад тае ці іншае дагечасных валадарствуючых нацыянальнасьцяў.

Становішча заграніцы, ўжо с таго' што была сказана вышэй-становіцца зусім зразумела цяпер ўсе мы добра разумеем, што ніякае пачуцьцё, ніякі сэнтымэнт нішто там, дзе з'яўляецца на сцэ-

ні грашовая справа. Там, дзе бачыцца нейкая нажыва, там, дзе зьвіняць залатаўкі, тыя і найлепшыя, тыя і найпраўдзіўшыя, з тымі і трэба лучыцца. Ніколі праўда мо гэта ня праявілася, як на нашых вачох, калі Захадняя Эўропа кідае каменямі на бальшавікоў, гаворэ аб іх як аб злачынцах, зладзеях, якая памагаець ўсім, хто толькі хочэ бароцца з імі (Врангэль, Калчак і іншыя) і праз нейкі час клічэ іх да сябе, гаварыць ім, што нямашака ніякае гутаркі аб зборaных ці зброоўшых, што ўсе браты ўсе мусяць супольна прапаваць на агульную карысьць. Безумоўна, што і тут шчырасьці зусім няма, што ўсё гэта словы, якія прыкрываюць прыгожымі вопраткамі самае дрэнная цела, ўсемагутнага валадара,—бога Мамона. — Ад самага мо пачатку сьвету так было і так будзець і мы ў немагчымасьці гэта нераменіць, а толькі мусім добра ўцяміць і запамятаваць, каб ня абманываць сябе, а потым шкадавацца. Калі будзем дужыя, калі будзем багатыя, ці разумныя — будуць у нас прыяцелі і абароньнікі, целы сьвет згодзіцца з намі і будзець нас нат паважаць, калі мы яму гэта прыкажжам, калі гэта будзець ўспадобу.—Дзеля ўсяго гэтата ніколі ня сустрэнець нас з боку заграніцы нейкая неспадзеўка, ўсё будзець залежала ад нас... ўсё там ясна і зразумела. Калі возьмем нашу краёвую інтэлігэнцыю, бяз разніцы, ці якая з іх прапала для нас раней ці пазьней, дык і тут псыхалёгію людзеў даволі летко схапіць. — Выходзячы з прынцыпу што чалавецкасьць праходзіць праз пэўныя, няабходныя шляхі, і што адным з прыпынкаў на гэным шляху ёсьць пэрыяд формы нацыянальнага жыцьця; згадзіўшыся з гэтым, летко зразумець ўжо нам тады той сум, тое лятуценьне і каханьне з якім прыходзіць ў сьвет кожны чалавек. І можна гадзіцца з ўселякімі тэорыямі ў адносінах да паняцьця самае сутнасьці нацыянальнасьць, скажэм сабе аднак, што вялізарнае значэньнэ з'яўляецца і у той форме духовуй. І толькі ўсе ўплывы з боку эканамічнага, сацыяльнага і рэлігійнага могуць пераменіць, зменшыць маё імкненьне кудысьці... Магчыма, што я і паблуджу ў цэлуй путаніцы, яка з'явіцца перада мной, пайду зусім іншай, чымсьці патрэба дарогай, ўсёж прыдуць такія хвіліны, калі я нясьвядома зусім мо, але пачую, што абмыліўся, пацягнець мяне ў іншы бок, голасна будзець штосьці крычаць там ў сярэдзіні, ў душы, я ж буду тады, быццам, глухі і неразумны, бо астануся на месцы, ня зьвярну з свайго шляху. Гэтак зробіцца ня раз, аж пакуль я ня змучуся надта тою барацьбою і заўсёды, як гэта робіцца ў злосьці вялікуй, зьвярну сваю злосьць і гнеў у той бок скуль гукаюць да мяне словы праўды. Пачну я нянавідзець ўсё тое, з чым лучыцца самое паняцьце таго асяродка.—Так бываець часто, так робіцца штодзень. І калі даўно ўжо прайшоў час стварэньня аканчальнага людзям паняцьця тае ці іншае нацыянальнасьці і калі ўжо такае паняцьце зродніелася з людзьмі, увайшло у іх кроў і пасьля толькі перамена абставін ўвагнала людзеў ў іншую каленіну, адгалоскі даўняшнія ім ўсё маніліся чуваць. І з гэтуль іх злосьці, з гэтуль іх ненавісьць да праўды... так і з нашымі інтэлігэнтамі. Бачым, што адныя з іх адкалоліся духам даўно, даўно, адкалолісь мо і ня думаючы аб тым, што робяць, другія же, якім манілася, што яны робяць дрэнна, але не тое яны і былі „інтэлігэнтамі" на тое яны пашырылі свой кругазор, карыстаючыся з летко ім прыйшоўшагася хлеба пярэз з горных і мазолістых рук сярмяжнага бацькі, каб мець магчымасьць апраўдаць сябе прад людзьмі за сваю работу, бо прад сабпю зрабіць гэтага ім ня ўдасца. Кажуць людзі, што бачыцца гэта ня толькі у нас, а ўсюды, ўсюды, дзе з'явіцца такі вырадак, бываець ён найгоршым злосьнікам, найбольшым ненавістнікам. Здаецца даволі яны нам зразумелыя гэтыя людзі і ня будзем дзівіцца ніколі, калі пабачым тыя ці іншыя адносіны іх да нас.

Цяпер паглядзімо бліжэй да самага гушчару масы народнае і тых яе прадстаўнікаў, якія тульк о што вышлі з яго, носяць з сабою і ў сабе сьвежыя адгалоскі таго становішча, да тых імкненьняў, якія істнуюць у гых масах.

Гаворачачы аб масах мусім ведаць, што нацыянальнае жыцьцё у іх пачалося надта нядаўна. Тое, што гаворыцца і пішэцца аб парыўках патрыатычных там ці сям у надта далёкую пару — сьведчыць аб тым, што прывыклі мы судзіць ня так як было сапраўды, а так, як нам здаецца. На ўсё хочэм глядзець праз вакуляры нашых абставін. Ня ўваходзячы калі, ў якую пару які элемэнт меў перавагу у пачуцьці нацыянальным, мусім сказаць, што і тут, як паўсюды бачыцца тое што даўней больш мо благія стораны ўваходзілі на сцэну. Ня ўваходзячы зноў ацэну сутнасьці і пачатку сьвятога, чыстага і вялікага пачуцьця прывязанасьці да Бацькаўшчыны, калі тое пачуцьце плыве сапраўды з глыбі душы, калі сапраўды праяўляец-

ца толькі у адной (пазытыўнай) рабоці і думцы, трэба зноў ведаць нам, што вялікая розніца паміж патрыятызмам колішнім а цяперашнім (разумеецца, што гаворым тут толькі аб людзях сярэдняе меры, не аб вынятках, з якіх прыкладу браць нельга, а на чым гісторыкі з гарудзілі свае максымумы). Безумаўна мусіць быць нейкая разніца паміж патрыатызмам паляка часоў „вольнае элекцыі" а паляка нам сучаснага. Той йшоў бараніць калі хацеў, і тады калі яму маніліся, што яго „бязпека" ў нябязпецы, ці проста фантазыя прышла да галавы; цяпер гэта зусім інакш. І калі затрымоўваемся над гэтым пытаньнем, та ў спамянем яшчэ нашую розніцу ў паняцьці самым „народ". Бо трудно ж нам верыць шчыра, нам маладым, што цярэбім ўсюды сабе новыя шляхі, што ўсюды пашыраем свае кругазоры, у тое патрыатычнае пачуцьцё, якое плыве з пажаданьня ня аддаць нікому, ня падзяліцца з нікім тымі вольнасьцямі, тымі багацьцямі, якія я маю—гэта мы называем проста—эгоізм. Так што, калі гаворыцца аб патрыатызаме, трэба заўсёды сказаць, з якою параю ён лучыцца, бо словы, што нельга — ж было да ліку народу прылучыць поў-дзікіх людзёў, горш як нявольнікаў, бо прыгоннікаў, мы адкажэм, што і самое наша паняцьцё было фікцыя, бо тая „вышэйшасьць" „паноў" была толькі вышэйшасьцю дужага над слабым, але ня розумам, ня вераю, ня сэрцам калі гэта было-б могчыма, а толькі кулаком. Мы старое паняцьцё адкідваем ад сябе далёка!!!

Народ як маса, як лучнасьць ў адно ўсіх розумаў, пачынаець новую эру ў пачуцьці патрыатычным, сутнасьць якога толькі мы і прызнаем. Гісторыя сама надта добра сьведчыць аб праўдзівасьці нашага становішча. Зноў кідаецца ў вочы ў сваёй гісторыі Польшча. Бачым яе паўстаньне адно, другое і трэцяе, і ўсялякія меншыя, бачым іх канец, які лёгка мы разумеем і інакш зусім, чым сьведчаць нам гісторыкі, якія і тут шукаюць тых самых прычын, ў якія кажуць верыць нам: бачым так сама і адраджэньне Польшчы і зноў разумеем дзела чаго, гэта апошня паўстаньне скончылася інакш. Бо быў тут народ, была маса, ў большасьці сваёй сьвядомая, імкнуўшаяся да незалежнасьці і гатовая аддаць бяз нічога ўсё, што было ў яе магчымасьці для свае думкі.

Выясьніўшы коратка наш пагляд на пэўныя прынцыповыя пытаньня, якія бліска лучацца у самым паняцьці з сутнасьцю патрыятызма, пераходзім далей да нашае тэмы.

Усім надта добра вядома, якім бяздольным чалавекам як адзінка і як народ быў, а мо' і ёсьць наш Беларус. Няшчасьце яго пачалося даўно. Пачатак ужо схаваны у падзелі яго на каталікоў і праваслаўных. Няшчасьце яго плыло так сама і дзякуючы таму, што ён быў іншы ад сваіх суседзяў, ня меў ніколі ніякіх імкненьняў аннэксыйных, у ём ніколі ня бачылася захопленнасьці ў ніякім напрамку. Як заўсёды бываець, скарысталі людзі іншыя, скарысталі су , седзі, каб пашырыць сваё валаданьне каб мець магчымасьць карыстацца з высокае калісь культуры беларускае. Першыя зрабілі так Ліцьвіны. І відаць, што магутныя сілы драмалі ў народзе Беларускім, калі новае Беларуска-Літоўскае княства пашыраецца і дужаць з дня на дзень. Ня ведаем, які б быў канец таго злучэньня, калі б яшчэ умяшалася не тут Польшча. Польшча ў той час ўсім чым толькі магчыма розьнілася ад Беларусі. Нагул трэба згадзіцца, што элемэнты заходнія мелі ў сабе нейкую вышэйшасьць, што Польшча, дзякуючы як раз сваей заходнясьці перамагла культурныя ўплывы беларускія і мы бачым доўгае змаганьне чыстае нацыянальнае беларускае, славянскае культуры з заходнясьцю ў асобе Польшчы. Канец нам вядомы: Беларусь нямаючы сваей афіцыяльнай дзяржаўнасьці, губіць і людзей, якія творацафіцыяльна нацыянальную культуру—інтэлігэнцыю. Пачаўся заняпад. Народ быццам заснуў на доўгія вякі.

Як і калі пачаў ён будзіцца сказаць трудна. Найхутчэй, што кроў сама загаварыла тады, калі аднолькава пачалі гукаць і згуквацца іншыя спаўшыя народы. Тыя пайшлі па сваім шляху хутчэй, Беларус астаўся ззаду дзеля пэўных прычын. Узглянем дзеля чаго было так і праз што? Першай прычынай было тое, што „наша" зДэнацыяналізованая інтэлігенцыя была ў зусім іншых абставінах, чымсі інтэлігэнцыя такаяж іншых будзячыхся народаў. У нас з аднаго боку інтэлігенцыя расейскае культуры была такой што аб ёй можнаб было і замаўчаць, (яе-ж праўда было мала ў канцы XVIII і пачатку XIX сталецьцяў і калі яна была такою самаю як і тагочасная, Расейская, а трэба нам успомніць якою яна тады была). З другога боку інтэлігэнцыя польскай культуры. Гэтая сваім разьвіцьцём была мо' троха дужэйшаю за другую, але тады зноў головы ўсіх былі занятыя чымсі іншым, бо гэтажэ была пара заняпаду Польшчы, а нат калі і былі і людзі, якія верылі ў неадзоўную па-

трэбу істнаваньня Беларусі, бачылі яе перад усім у лучнасьці з Польшчаю і наперад хацелі той памагчы. У тую самую пару і інтэлігэнцыя чэская і харвацкая і Украінская моцна ўзяліся за работу, нашыя баролісе за Польшчу і так трывала амаль не да канца XIX ст. Калі ня было далей магчымасьці бароцца за Польшчу „шляхта" пачынаець памалу звароччацца да масаў сялянскіх, пачынаець цікавіцца нацыянальным іх воблікам і пачынаецца сьвядомая праца ў гэтым напрамку. Бачым аднак і тут нешта іншае чым у іншых народаў. Там быў гук адзін: свая нацыянальнасьць перад усім; стварыўся мо нат шовінізм, парвалася ўсенькая лучнасьць з валадаючым народам.

У нас дзеячы, якія і сьвядома працавалі дзеля беларускасьці бачылі ў ёй „ступеньку" да агульнага чалавецкага ідэалу. І калі мінуў першы парывак да новае думкі, калі прыходзілася часта даволі сустрэкацца ў жыцьці з камочкамі, калі энэргія пачала слабець ўпершыню з'явілася думка, што мы столькі працуем, столькі борэмся, і мо' непатрэбна гэта зусім, мо' робім вялікую шкоду для чалавецтва, бо шукалі яны у сваёй рабоці і глядзелі на яе канец і бачылі толькі яго адзін, гэта сапраўднае братство ўсіх людзей, ўсіх народаў у адной вялікай сямьі. І калі ім прыходзілася памерыць свае культурнае багацьце з іншымі багацьцямі культур, выглядала, што і сапраўды мо не, бо каб выраўняць розніцу цяперашнюю, сколькі на тое патрэба-б было і часу і сілаў і ахвярнасьці. І ці гэта ахвярнасьць будзець з карысьцю для самаго народу, ці мо яму ня лепш было-б проста прылучыцца да якое-колік культуры сьвядома зрабіць гэта, зліцца з ім ў адно і імкнуцца да таго сьветлага сонка раўнасьці і брацтва?.. І часта стала спатыкацца гэтае пытаньне:. Праз беларускасьць да чалавецтва, ці праз чалавецкасьць да беларускасьці. Дзякуючы гэтаму стварылася хістаньне з канца ў канец, ня магло быць працяжнасьці ў рабоці. З гатовым ужо канкрэтна пастаўленым пытаньнем спатыкаецца маладое пакаленьне. І цяжкую барацьбу няраз трэба перамагчы, каб так ці інакш адказаць сабе. І цяперашняе нам сучаснае пакаленьне мучыцца, быццам, з не каю балячкаю з сваімі загадкамі. Магчыма, а нат напэўна так, што гэта яшчэ ўплывы тых культур, пад якімі расьлі, магчыма, што іх сьвет, а няведаньне (яно надта вялікае у нас усіх) нічога свайго, часамі дзіўны сорам, спагадала развіцьцю такому, а не іншаму. Такія адносіны і такое становішча займаюць надта часта людзі, якія і працуюць для Бацькаўшчыны якія прышлі да перакананьня, што не Беларусамі яны быць ня могуць, што іх кроў, іх душа і мозг і іх псыхіка апрычныя беларускія і толькі надта вялікая кволасьць, надта мо вялікая зятуценнасьць звярнула іх так, бо ўсюды яны хацелі-б бачыць праўдзівасьць, яснасьць і хараство думак і імкненьняў. І безумоўна, што іх мы ня можэм адапхнуць аб сябе, мы павінны бачыць у іх нашых найдарожшых братоў, якія толькі блутаюцца яшчэ бяз тае карысьці для роднае справы, якую-б маглі даць, калі-б сапраўды шчыра і моцна ўверылі ў свае мэты, каб ня асталося у іх ніякіх сумлеўкаў у рабоці ў нацыянальным напрамку.

Калі так мы мусім спытацца ў сябе, ці будзем магчы з поўнаю вераю і адважнасьцю ачысьціць іх шлях з тае крапівы і іншае дурное травы, якая там разраслася?! Безумоўна—так! калі мы дадумаліся да таго, што ня Беларусамі быць ня можэм, дык ня можэць быць ніякае густаркі ні аб чым—гэта зусім ясна. Есьць аднак і такія сумленьнікі, якім гэтага ня хопіць, дык калі яны людзі „добрае волі" няхай увераць у тое, што толькі адно патрэбнае і прыгожае мусіць стацца ў жыцьці. Усё благое і дрэннае, згінуць—ўсё, што ня будзець мець ла рэальнага фундамэнту пад сабою прападзе і ніякія падмогі ня падтрымаюць таго, што маець згінуць. Калі беларуская трава фікцыя, калі яна дрэнная-жа прападзе яна перастанець істнаваць. А ўсё ж нат калі і так (гэта здаецца немагчымасьцю, але так падумаем сабе) работа нашая ніколі ня прападзе. Яна будзець жыць апрыч усяго, ня гледзячы ні на што. Мы цяпер вядзем барацьбу культурную. Мы будзім жыцьцю народ, які спаў, мы яму адчыняем вочы, пашыраем яго кругазор, даем магчымасьць мацней дыхаць і з большаю пэўнасьцю ўглядацца на ўсенькі сьвет Божы. Мы яго робім чалавекам. Усімжа-ж ведама, што культура апрыч элемэнтаў собскіх, маець пляцформу агульна-чалавецкую, і распаўсюджываючы гэную культуру, маем магчымасьць гардзіцца прад сабою, што ці так, ці інакш, аднолькаваж мы барольнікі добрае рэчы.

**Родзіміч.**



# Студэнцкая Моладзь у беларускім руху.

Моладзь—гэты авангард грамадзянства—заўсёды першая адклікаецца на кожную сьветлую ідэю, на кожын новы кліч да працы дзеля вялікага ідэалу. Зусім натуральна, што калі толькі пачуўся прызыў да нацыянальнага адраджэньня беларускага народу, цярпеўшага ў працягу сталецьцяў уціск чужынцаў,—прызыў гэты ня мог ня зачапіць нашай студэнцкай моладзі. І яна адгукнулася, яна пайшла пад беларускім адраджэнскім штандаром, яна дала і дае цэлы сьцяг грамадзкіх і палітычных дзеячоў працаўнікоў на роднай ніве.

Варункі, пры якіх пачаўся адраджэнскі рух сярод нашае моладзі, былі дужа цяжкія. У тыя часы—ў канцы мінулага сталецьця—на ўсім вялізарным прасторы Беларускае зямлі (ў так-званым „Паўночна-Заходнім Краю") ня было ніводнае вышэйшае школы, і наша моладзь за навукай павінна была ехаць некуды ў глыб Расеі, распыляючыся па расейскіх унівэрсытэтах і тонучы ў масе расейскае моладзі з яе далёкімі ад Беларусі справамі і запросамі.

Жыцьцё студэнцкай маладзёжы ў Расеі заўсёды ішло пад знакам агульна-студэнцкіх і агульна-палітычных ідэалаў. Вышэйшыя школы вельмі горача адклікаліся на ўсе праявы грамадзкага жыцьця Расеі і давалі вялікі лік чынных байцоў за справу волі. Дык найчасьцей бывала, што агульным настраеньнем і наша беларуская моладзь захоплівалася без астатку, губляючы зусім нацыянальную сьвядомасьць, губляючы пачуцьцё нацыянальных патрэб—сваіх асабістых і ўсяго народу. Але ўжо ў канцы 80-х і пачатках 90-х гадоў мінуўшага сталецьця ў агульна-студэнцкім руху пачынае выдзяляцца і рух беларускі—хаця яшчэ бяз выразнай ідэолёгіі. Першы зачатак беларускае студэнцкае організацыі быў у Маскве, але вялікшага сьледу па сабе не пакінуў, апрыч выданай сябрамі беларускага гуртка кніжкі—перакладу з Гаршына (з расейскага пад загалоўкам „Сыгнал".

Больш шчасьлівай была работа, каторую пачалі беларускія студэнты ў пачатку гэтага сталецьця ў Пецярбурзі: яна ня толькі ня спынілас , але трывае і разьвіваецца ўсё болей і болей шырока. Пачатак яе выявіўся ў закладзінах „Кружка беларускае народнае асьветы", выпусьціўшага ў 1902 годзе адозву да краёвай інтэлігенцыі с прызывам несьці народу прасьвету ў яго роднай мове. Само сабой разумеецца, што тагочасная работа была патайная і з гэтай прычыны не магла шырэй разьвівацца; але яна датрывала да 1905 году і пасьля рэволюцыі бачым яе ўжо ў новай постаці. Студэнцкая моладзь ладзіць тут свае вечарынкі з канцэртнымі аддзеламі і тэатральнымі прадстаўленьнямі, гуртуецца каля выдавецкага таварыства. Энэргічнай працай гродзенчука І. Хлебцэвіча і некалькіх яго землякоў у 1913 годзе студэнты Пецярбурскага унівэрсытэту закладаюць даволі сільную організацыю, каторая ясна ставіць ідэю беларускую на самы першы плян, стараецца запраўды пазнаць свой край і народ. Унівэрсытэт—гэтае гняздо і крыніца ўсіх лепшых думак, лепшых ідэй і лепшых людзей — і на гэты раз апынуўся наперадзі.

За унівэрсытэтам пайшлі сельска-гаспадарскія курсы. Там стараньнем Ар. Смоліча ў тым жа 1913 годзе заложаны студэнцкі хаўрус. Сьпярша ён стаяў ня надта крэпка, але ўжо у 1914 годзе значна акрэп: туды прыплыло шмат новых сіл, з каторых усе, скончыўшы навукі, павінны былі паводлуг сваей спэцыяльнасьці праца аць між беларускім народам. в

У Варшаве яшчэ раней злучыліся студэнты-беларусы і пачалі б олей меней шырока працаваць на нацыяльнымгрунце

У 1914 годзе залажыўся студэнцкі беларускі гурток у Пулавах (Нова-Александрыі) у сельска-гаспадарскім інстытуце.

Апрыч гэтых організацый чыста беларускага характару ў апошнія перад вайной гады шмат было ў Пецярбурзе, Дорпаце і іншых вучэльнях розных зямляцтв, хаўрусаў, гуртков і т. п.—так або інакш беларускіх. Тут—зямляцтва бабруйскае, там—мінскае, магілёўскае, вітэбскае, гродзенскае. Гэтыя гурткі, хоць чыста беларускай ідэолёгіі яшчэ ня мелі, хоць вялі свае кніжкі і запісы ў урадовай мове, ўсё-ж складаліся ў большай сваей часьці з беларусаў, часта вельмі ідэйных і адданых свайму народу і краю.

Перад самай вайной між студэнтамі-беларусамі зрадзілася думка, каб усе гэтыя гурткі злучыць якім-нібудзь спосабам, каб працаваць усім разам. Дзеля гэтай мэты ў Пецярбурзе ў 1914 годзе залажыўся беларускі студэнцкі журнальчык „Раніца", першы нумэр каторага выйшаў у чэрвені.

На вялікі жаль, наляцеўшая ваенная навальніца адарвала ад іх мірнай працы цэлую масу маладых беларускіх сіл, каторыя апынуліся у радах чыннай

арміі. Уся праца студэнтаў-беларусаў, дый наагуль шырэйшая беларуская праца была прыпынена пад уціскам ваеннае дыктатуры. І прайшоў доўгі сьцяг гадоў, пакуль беларускае студэнцтва ізноў узмацавалася і пачало нанова сваю карысную работу.

Работа гэта йдзе і пад уладай Польшчы, і пад Савецкай Расеяй — у межах Усходняе (Савецкае) Беларусі, і, ўрэшце, заграніцай—у Чэхах (Прага). Але цяпер задачы беларускага студэнцтва шмат лягчэйшыя, чым былі перад сусьветнай вайной. Пад той час, як тады студэнты разам з усім сьвядомым грамадзянствам яшчэ толькі нашчупавалі дарогу, апіраючы ўсё адно толькі на глыбокай в е р ы ў адраджэньне беларускіх народных масаў,—цяпер наша моладзь мае ўжо да свайго ўжытку сьляды працы цэлага пакаленьня, мае даволі багатыя культурныя здабыткі, мае зусім ясны, сканкрэтызованы нацыянальны ідэал і, што найважней, бачыць сваімі вачыма прабуджэньне міліённых масаў беларускага сялянства, бачыць акрэпшае і багатае культурнымі сіламі сьвядома беларускае грамадзянства, у якога можа заўсёды знайсьці падтрыманьне і ідэйнае кіраўніцтва.

Трэба думаць, што пры гэтых новых варунках дзейнасьць беларускае студэнцкае моладзі дасьць шмат багацейшыя, чым дагэтуль, плёны: яна-ж, гэтая моладзь, крэпка стаіць на сваім родным грунце—у сваей зямлі, і „роднае карэньне" дасьць ей магутную сілу дзеля творчае працы.

**Н. А.**



# Ярмо сонка.

Нешта дзіўнае рабілася ў гэным летку з усімі расьлінамі. Праўда, што яны-ж гаварыць ня могуць, паседжаньняў ня робяць, і пастаноў сваіх не запісываюць.

Пабачым, што-ж гэта было такога калі-б вы вышлі ў ціхую летнюю ночку далёка ў поле, або ў луг, або ў самы гушчар лесу, калі ветру ня бываець і ўсе быццам, сьпіць у нейкум зачараваньні, можна тады пачуць ціхія шапаценьня, якія ідуць здаецца ад зямлі, падымаюцца над дрэвамі, разносяцца навакол, разыходзяцца і прыходзяць да нас, падобныя да гутаркі, гоману... Гэта гавараць з сабою расьліны у той гоман, нячутны амаль, разыходзіцца ў начы ад аднога небасхілу да другога, а ў другую ноч падыходзіць адказ і ў гэтай дзіўнай незразумелай гутарцы, якой не зразумеець і найдасьціпнейшы батанік, родзяцца пастановы, пастановы вялікае вагі і часамі ня ведаючы, мы бываем прысутнымі пры таемных судох, страшных у сваей кансэквэнцыі.

Тое, што было цяпер, у чым хавалася ўся сутнасьць шапаценьняў расьлін, было чымсьці такім ня звычайным, што ад першых дзён сьвету, нікому да галавы ня прыйшло. Шырокі і высокі граб, магутны і дужы, быў тварцом тае думкі. Становішча граба было надта добрае: стаяў ён сярод вагромністага палетка жыта і дзеля таго, кожнае слово яго пераходзіло ад аднаго каласка да другога. І так разыходзілася па цэлым сьвеце.

Граб гаварыў ў гэткі спосаб:

„Браты мае і сёстры!

Ад няпамятнае пары наш род расьлін займаў ўсенькую зямлю. Яна да нас належыць, бо ўсё што істнуець, прышло куды пазьней, а мы самыя падбілі яе сабе. Звяры, людзі, ўсё ад нас залежыць. Каб ня было нас, ня была і самога жыцьця. Гэта ж мы кормім каровы, якія сваім малаком і мясам падтрымліваюць людзей; мы і авечцы, якая адзеваець чалавека і каню які робіць дзеля яго, служым за яду; птушкі жывуць з нашага насеньня, мушкі розныя з мёду нашых пахучых кветак, паўзуны і кожны найменьшы чарвячок шукаець пад'есьці у нас. Мы з'яўляемся цэнтрам ўсяго, што жыве. І зусім не салгу, калі гавару, што мы кіруем сапраўды сьветам і ўсё варушыцца і круціцца каля нас. А штож гэта такое, тая самая зямля, як не ральля, створаная з нашых лісьцяў, пнёў і галін, якія даўно ужо кінулі жыць? Зразумела зусім тады, што мы сваё жыцьцё з са-

мых сябе бярэм, родзімся ад самых сябе. Маем у сябе, у руках сваіх тую вязанку маленькіх галінак, якая завецца—магутнасьцю.

Аднак ёсьць на сьвеце штосьці, што ад нас не залежыць, а да чаго мы гусім прытарнавацца. Ня думайце, што вяру тут аб паветры,—мыж і на яго робім вялізарныя ўплывы.

Я маю на думцы сонко!

Тую вогняную кулю, якая істнуе, каб дарыць сьветам і цяплынёю, а ад якой, як кажуць, і наша жыцьцё залежыць.

Браты мае і сёстры! Не без закавыкі я тут гаварыў: „як кажуць". Бо мой погляд зусім іншы. Ці сьвет сонка робіць нам дабро, ці мо яно з'яўляецца нам шкодным, калі ўжо ня непатрэбным! Як думаеце?! Бо як я, дык мне здаецца, што той агульны пагляд, што сонко—неабходная пружына для жыцьця расьлін, ёсьць па прсту кажучы брахнёю, і зусім ужо немагчымасьцю для сьвядомае расьліны, якая не асталася ад агульнае думкі, ўсё ідучай наперад."

Тут граб на хвіліну перастаў. Старыя дубы і ліпы суседняга лесу загаманілі нездаволена, кажучы, што не льга так сабе пераменяць сьвятога парадку агульнага, калі адначасна шырокія палеткі жытаківалі галавамі. А граб так гаварыў далей.

„Ведаю добра, што маем у нас кансэрватыстаў, якія імкнуцца да таго, каб не гледзячы ні па што, трымацца старых, аджыўшых ужо формаў жыцьця. Але кіруюся здаровым розумам маладога пакаленьня, што яно не захочэць трымацца згнілых абставін, верыць у даўно ўсім вядомае лгарство аб сонку. Гэта-ж мы—расьліны, здужаем ўсё самыя сабою. Мы маладыя, не захочам класьць сваіх галовак у якое — коляк ярмо, хаця-б нат і ярмо сонка. У нас ня павінно быць ніякага першынства, ніякага прыгону"! Мы створым новыя абставіны, мы пачнем новае жыцьцё, якое як Фенікс зродзіцца з свайго-ж попялу. Твая пара ўжо мінула; аджыла свой век, старая куля, што хочэш сьвяціць нам з пагардай з вышыні!"

Тут пачуліся з усіх бакоў вопляскі. У гомане тых галасных крыкаў, ніхто не пачуў просьбы старадрэва.

Калі гоман сьціх, граб кончыў сваю прамову:

„Адгэтуль лёзунгам нашым павінно быць тое, што людзі завуць—забастоўкаю. У дзень будзем паўстрымовацца ад ўсялякае работы і службы, апрача таго толькі, што з'яўляецца неабходным дзеля жыцьця. Затое ў начы будзем жыць шырока, каб дагнаць тое, што прапусьцім. Звольнімся ад ярма, злучымся з ночкаю, зродні́мся з тою, з якой ўсё вышло і да якое ўсё у нас і праз нас вярнуцца павінна.

Тады будзем расьці і цьвісьці прыгажэйшымі краскамі, чымсьці цяпер, дзеля асьвяткаваньня начы, наш пах тады толькі будзець разыходзіцца і так само ў начы будуць дазрэваць і насеньня і каласы, якія будуць фундамэнтам новага жыцьця у новых абставінах. І гэта будзець жыцьцё сапраўднае, якое мы мець павінны."

— Ен скончыў. Шапаценьня здаволеньня зну пачулося, хоць мо крыху і меншае, чымсь у першы раз.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Людзі бачылі нейкія дзіўныя з'явішча у тым годзе. У дзень калі грэла сонко і сьмяялося да ўсіх, кветкі зачыняліся, быццам, хворыя ці якіясьці сьпячыя. Нідзе ня бачыцца таго багацьця коляраў, рознасьцяў зялёнасьці. І гароднікі дарма круцілі сабе галавы, шукаючы на ўсё прычыны. Нікому аднак ня прышло ў галаву прысьці і паўслухацца да кветкаў у начы, ня бачылі тады, як пры нявыразным сьвятле месяца пачыналася жыцьцё новае расьлін. Хутко ўжо можна было бачыць дрэнны канец тых спроб, якія рабіліся.

Жыто і пшаніцца і каласы іх зусім не жаўцелі, бо ня бачылі сонка, і пачалі яны схіляцца ўсё ніжэй, ды ніжэй, пакуль ня прыгнуліся да самае зямлі. Мушкі ня лёталі з кветкі на кветку, мёд не тварыўся ў недазрэлых вянках. І хутка пачалі жоўтыя лісьцьця падаць на зямлю і з лета стаўся нейкі— сапраўдны лістапад.

Пачалі тады глядзець косо на граба які так дрэнна налгаў і абмануў расьліны. Ен стаяў ўсё-ж спакойны ў залатой вопратцы і казаў толькі часамі:

„Якое малое веры—вы браты мае і сёстры! Ціж цяпер вы ня прыгажэйшыя багацейшыя? А што найбольш, дык гэта, ціж вы цяпер ня больш вольныя, чымсьці калісь, калі былі вы ў няволі чорнуй якогасьці там сонка? Тады ўсе прыбраныя былі ў нейкую форму, быццам сапраўды арыштанты. І якіяж вы былі тады «маленькія», такія мяшчанскія, не гаварачы ужо хамскія! А цяпер куды больш вы кволыя, ганорныя, сапраўдныя арыстакраты цела і духа!"

І зну паверылі ўсяму бедныя, хворыя расьліны. І да апошняга лісточка, які упаў, да апошняе галінкі, якая умі-

рала, да хвіліны, калі згінулі ўсе жыцьцёвыя сокі, паўтаралі ўсьцяж, хоц што раз цішэй, ўсё цішэй.

„Мы кволыя, му арыстакіраты цела, духа!

У газэтах, часопісях, якіх праўда што, расліны ня чытаюць, пісалі людзі аб якойсьці пязвычайнай хваробе у расьлін, аб зніштажэньні лугоў і палёў, аб немагчымасьці просто далейшага жыцьця. Але разумныя людзі ўцямілі, што гэта мамэнт, што гэта хворасьць, якая мусіць мінуць, што мусіць прыйсьці лепшая пара. І так зрабілася!

Калі прышла вясна, ўсюды пачалося заўсёднае, штодзеннае, нармальнае жыцьцё царства расьлін. Маладыя, прыгожыя палеткі жыта зялянелі пад самым пнём старага граба, які ня мог ужо чуць вясёлае сымфоніі да сонку усіх кветак рознакалёрных, рознапахнучых, усіх дрэваў поўных магутнасьці і хараства, і нат тых маленькіх мушак і злучаных усіх з тым што яны паважалі мкачаі, бязпрымусу, але з дзіцячае веры і шчырасьці, з міласерным, добрым сонкам.

С. Радзіміч



# „Пешчнае дзейства.“

(„разважаньня і прагнозы перад выбарамі“)

* * *

Палітычныя экспэрымэнты, асабліва вагі гаспадарственай у кажучай часам сваёй прынцыповай аднабокасьці, маюць столькі граньняў (ледзь прыметных і мала значных) прыпушчаючых безканечнае мноства розных тонкіх „ізомэраў“,

Барадзьба ў нізе прадрашаецца барадзьбой у верху.

І першая толькі атліваець у канкрэтна-жыцёвыя хформы нешта „З туль“ Даець тую фізычную

Жыцьцё палітычнае—акт кордынацыі і сьвядомасьці.

Рух душы народнай—парыў, безграні́чнасьць вібрацыя.

Рух гаспадарскі—тэмбр, ігра хформы і сьлітнасьці.

Тут мост. Крыж на ростаньні.

І асьвядомленьне пачуцьця—работа мозга.—Работа інтэлігэнцыі.

Блізяцца выбары. Есьць абчым падумаць, пагадаць.

Вось дык штука...

Хацелі за старое—Veto.—

Слава Богу ня выйшла-на дваццатую сотку перабраліся... Позна.

Калі на адным баку заслоны новага „пешчнага дзейства“ значыцца „хам прыходзячы“ дык на другім выяўляецца „пан на усеках“

Есьць аб чым падумаць.

І думаць мопна...

Каб толькі ня доўга, бо быў такі „мудрэц“, што так доўга думаў, што калі пад канец дадумаўся, дык забыўся гаварыць.

Другія гаварылі...

А гэта ўжо прыкра...

„Шыла ў ворку ня схаваеш“—усюды вылязе.“

Праўда! Можна толькі што-нібудзь зрабіць, каб ня калолася.

Ну затрымаць там, абматаць чымсь.

Наша справа зрабіць яго вастрэйшым.

Для гэтага награвають і куюць.

Так памятаць трэба, што робіцца гэта умеючы, а то, як у таго „каваля“ можа выйсьці „пшык“.

**Сяргей Ма—еў.**



# Аб уніі Літоуска-Польскай.

Дзе і як радзілася унія Літоўска-Рускага гаспадарства з Польшчай? — Вось пытаньне, зачапіўшы якое Паляк з Беларусам ня могуць прыйсьці да якогась аднаго выніку. Спор бывае часамі надта доўгі. Пры гэтым паляк адразу успамінае шлюб Ягайлы з „cudownej urody“каралевай Ядвігай.

Мне здаецца, што хоць троха асьвечаны чалавек павінен ведаць, што ня самы шлюб Ягайлы злучыў на нашу, можа, бяду, нашу зямельку з Польшчай. а — тыя акты, якія былі падпісаны 14 жніўня 1385 года ў Крэві, 11 марца 1401 г. ў Вільні, 2 кастрычніка 1413 ў Гародлі і т. д. і каторыя канчаюцца на ўніі 1569 г., фіналам чаго зьяўляецца акт выданы 22 верасьня 1791 г. праз так званы „вялікі чатырох-гадовы сойм“.

Але і на гэтым ня скончылася, бо паўстае пытаньне ці праўда, што Літва перш папрасіла ў палякоў помачы проціў немцаў, альбо інакш кажучы, і дзе зрадзілася ідэя ўніі і хто ўзяўся яе рэалізаваць...

На гэта пытаньне адказ як нельга лепей дае польскі гісторык Оскар Галецкі ў сваей працы „Dzieje Unii Jagielońskiej“ у каторай ён чорным па белым давёў, што плян уніі паўстаў спачатку не ў палякаў і не ў літвіноў, а ў вянгерцаў.

Тварцом гэтай ідэі быў някі вянгэрскі магнат Мікалай Конт, каторы бачучы што злучаная пад даводствам Людвіка (вянгерскага) вянгерска-польскае войска, ня можа сілай адарваць ад Літвы Валыншчыну, стараўся заластвіць гэту справу спосабам дагавору які і быў зроблены 15 жніўня 1351 г.

Пры гэтым догаварьі Кэйстут (літоўскі князь) захаваў усе старыя літоўскія цэрэмоніалы. Згодна з ім Людвік павінен выстарацца ў папежа каралеўскую карону для Літвы, а за тоя Кейстут заабавязываўся прыняць з сваімі братамі хрэст.

У Літве мела такім спосабам паўстаць асобнае арцыбіскупства з біскупствамі і кляштарамі і г. далей.

Тры каралеўствы: Вянгэрскае, Польскае і новае Літоўскае меў злучыць саюз, каторы аднак выражаўбы якбы леную залежнасьць Літвы да Вэнгрыі, каторым выпадала ў усім зьвязку прывілігірованнае становішча“.

„Трудна не бачыць у гэтым нібы праблыску ідэі ўніі з Літвой, дарогай паваротy яе на каталіцтва“ кажа Оскар Галецкі.

Аднак гэта камбінацыя, дзякуючы здрадзе Кейстута не ўдалася: войны за Валыншчыну паміж Літвой і Польшчай цягнуліся далей, але ніяк не маглі прывясьці да такога сталага канца, якога гэта сабе жадала Польшча. Тады ў 1357 - 1360 годах паўстае ўзноў плян „хрышчэньня“*) Літвы. Пасрэднікам у гэтым і хацеў быць польскі кароль Казімір. Пляны гэтыя, як твердзіць Оскар Галецкі, былі бязумоўна ў зьвязку з плянам саюзу літоўскіх князёў з царом Каралём IV.

*) У тагочаснай Літве ужо былі і касьцелы, апрача таго амаль што усе з жыхароў былі грэцка-хрысьціянскай веры.

Такім парадкам, шлюб маладога караля з літоўскай княжной Альдонай нібы сымбалізаваў першы літоўска-польскі саюз і заразам нібы паказываў дарогу — ідучы па якой палякі маглі дабіцца намечанай мэты — апанаваньня Валыншчынай з Падкарпацкай Руськю. Увесь час свайго панаваньня Казімір вытрвала ідзе па гэтай дарозе. Так у 1360 г. жэніць унука свайго Казюка з дочкай Альгерда Іоаннай. Далей ідзе проэкт выдачы замуж яго дочкі за Канстантіна Карыатовіча з тым, каб ён атрымаў права да польскай кароны.

Паўстаўшы такім перадкам у польскіх галовах хітры плян аб тым, як загарнуць у свае рукі Валыншчыну, ані на хвілю не дае ім спакою і канчаецца наастатку тым, аб чым беларуска літоўскія летапісі гавораць, што: „пачалі лехі з Кракова пасылаць да в. Князя Ягайлы, каб той хрэст старога Рыму, іх каралеву Ядвігу узяў сабе за жонку, а сам стаў іх каралём“. Патверджаньне толькі што прыведзянаму факту, знаходзім мы ў факце, што на працягу больш чым двух вякоў у Польшчы перадавалася ад пакаленьня да пакаленьня традыцыя:

„Калі нашы продкі стараліся аб караля Ягайлы, каб прыняць яго на пэўных варунках за пана, не раз слалі да яго пасло\u045e“...

Польскі хронікер Длугош цьвердзіць навет, што найглаўнейшым спраўцам выбару Ягайлы не польскага караля быў Спытэк з Мельштыны. Оскар Галецкі устанавіў нават месяц і год у якім першы раз палякі заахвяравалі Ягайлу свой трон. Было гэта ў 1383 г. у красавіку. У склад польскай дэлегацыі ўходзілі Влодэк з Карбіновіч і Гродзеньца, якія пазьней у гадох 1385 і 1386 стаялі на чале пасольстваў у Буду (Венгрыя), Крэва і Валкавыск. Справядліvасьць гэтых довадаў Оскар Галецкі патверджае (Dzieje Unji Jagielońskiej, t. I, str. 97, Kraków 1919 г.) яшчэ і тым, што якраз пасьля каранацыі Ягайлы ў гадох 1386/7 паны з Тарнова і Мэльштына, пераважна, Янка з Тарнова, ваявода Сандамерскі, а таксама і брат яго падкаморы Спытак і старэнькі Спытак з Мельштына — кракаўскі ваявода атрымліваюць нязвычайна гойныя прывілеі. Найважнейшае гэта тое, што ў гэтых наданьнях побач з звычайнымі зваротками паўтараецца ўсказы на іх заслугу пры выбары Ягайлы на польскі трон.

Прывёўшы многа яшчэ фактаў, той самы аўтар гаворыць: „Гэта найлепшы довад таго, што ініцыятары Крэўскага акту вышлі з палітычнай школы апошняга Пяста, і яго праграму падбіцця ўсходу развівалі далей.

Як ня сумна для нас, што мы папшлі так лёгка ў так хітра зробленую праз палякоў лавушку,—але мне здаецца, што пасьля толькі што прыведзяных довадаў і прыняўшы пад увагу і тоя, што, як цьвердзяць польскія гісторыкі, з Серадзкага з'езду быў высланы да Ягайлы Субліńскі стараста з прапазыцыяй узвядзеньня яго праз шлюб з Ядвігай на польскі трон, хіба што ня знойдзяцца дурняў, каторыя-б паверылі пану Обсту, што:

Літва звярнулася з просьбаю аб помачы да Польшчы, адначасна злучаючы праз шлюб Ядвігі з Ягайлам „свае землі з землямі польскімі“.

Што Ягайла ўсё-ж такі на астатку мусіў „oświadczyś się w miłosci“ Ядвізе, якой ён ні разу ня бачыў, то гэта так бо было-б дужа брыдка ня толькі ей, але і палякам, каб гэта зрабіла яна.

Аднак палякі, асабліва вучцялі, якіх пасылаюць на вёску аб гэтым нічога ня гавараць, ці ня дзеля таго, што брыдка прызнацца, што Польшча ў той час была слабейша ад літоўска Рускага гаспадарства. Аб тым, што нам дала добрага гэтая ўнія, каліб аб гэтым судзіць таксама хоцьбы толькі на падставе Польскай навуковай літаратуры-раскажу другім разам.

**В. Г—ч.**

# У тумане.

Мы брыдзем у тумане да адвечнай далі
Сколькі ўжо узаду, сколькі напярод
Чэрцім жыцьцявыя мудрыя скрыжалі
[ падаем, уступаем для другі чарод
Там дзесь прамень сьвету за-бры
жыць і згасьне.
Рукі працягаем каб яго злавіць
Але то міражы, як бы сон ці басьня

Зноў страшная цемра ўвакол стаіць,

А туман суровы косьці разьядае
І марозіць сэрца й душу ледзяніць
[І краса спадае з шчокаў маладая
валімся, каб болей ні аб чым ня сьніць.
Дзе ж канец імкненьняў, чалавецтва мэта
Дзе збаўленьня прыстань, ня відна
яе. —

Схована у далі; ў цемры бяз прась-
вета.
Там дзесь у нязнана-незямным краю.
Да якогась пункту ўсё брыдзем у тумане
А яго ня бачым, схованы за вал
І балота месім, бродзім на дірване
Ідэал шукаем, сьмешны ідэал.
Вежы адбудуем і глядзім у гору
Ці ня там схаваны дзіўны талісман
Але сумна страшна ў незямным
прасторы
Увакола цемра, ўвакола туман.
Хтось незразумелы, ўсемагутны вечны
Пасадзіў на землю між балот і гор
І сьмяецца дзіка і глядзіць бязпечна
Як там мятусіцца бедны, жалкі твар.

І. Д.

## Прывет.

Прывет Вам з залатое Прагі,
Пад гоман сьветлае вясны.
Што пацнялі штандар адвагі
Між бруду, зьдзеку і маны.
Балююць хай учорашнія гэроі
І стогне хай прыгнечаны народ
Хай злыдні цешацца ў упоі—
Ды хай уступяць свой чарод.
Штандар даяржыце горда, сьмела
І верце—праўда пабядзіць.
На правае, сьвятое дзела
Хай сэрца ў страху ня дрыжыць.
Вясна! З чароўнаю вясною
Прыйдзе жаданае сьвятло
І кінем крыўду за сабою,
Як бы яе і ня было.

І. Д.

## З чужое стараны.

О, Беларусь, о, край мой мілы,
Старонка родная мая,
Тут расказаць ня маю сілы
Што адчуваю ў сэрцы я.
Цябе я бачу ў блеску сонца,
У срэбных пацерках расы
Што красяць усё ў табе бяз конца
І луг, і поле, і лясы.
Цябе ўбраную ў шаты,
У зялёны, сьвежы, як бы жар,
Пакроў цудоўны і багаты,
Што робіць вобраз, поўны чар.
Народ я бачу веры поўны
Няволі выжыўшы кашмар
Усім народам сьвету вольны
У роднай хаце гаспадар.
Люблю цябе, о край мой родны!
За што? Сказаць бы я ня мог...
Што мушу мо' як пес нягодны
Туляцца па чужых кутох.
А можа быць сваю нядолю
У тваім я твары палюбіў
Сваю аддаўшы ветру волю
Сабе чужыю налажыў.
Што мне там месца не знайшлося,
Паміж улюбленых сялiб
Дзе гнецца і шуміць калосьсе,
Паміж гальлістых груш і ліп.
Што з дому выжаны злым рокам
Табою запаўняюць сны,
Як птушка ў выраі далёкім
Чакаю сьветлых дзён вясны.

## Вецер.

Вее вецер завывае,
Грае сьвішча на прасторы
Хмары чорныя ганяе
Ломіць дрэва, крышыць горы.

І ў мяне на сэрцы бура,
Каб няволі, крык адняло,
Між людзей адзін панура,
Як ачмучаны блукало.

Сьвет вялікі, сьвет шырокі,
Для мяне на сьвеце цесна
Рвусь, імкнуся ў розны бокі—
Духу-ж скалы ўсе адвесны.

Вецер буйны, дух адвагі
Мы так родныя с табою
Як бяздомныя брадзягі.
З цэлым сьветам мы ў бою.

Ня находзім мы спакою
У прыгожым людзям сьвеце
Усё жыцьцё для нас маною
Пра нужду мы мусім пеці.

Зробім сполку, брат, з табою
Двох палецім на прасторы
Мо распрасцімся з нудою,
Мо разгонім разам гора.

Ј. Дварчанін.

## Прысяга незалежнасьці.

Не нам, Беларусам, не нам
Маскоўцам, Палякам служыці!
Нам тутака трэба і там
Для Русі-Белае жыці.
Не нам, Беларусам, не нам
Для мэты чужое кроў ліці —
Меняці кажух на лахман...
Нам трэба Русь-Белу любіці!
Не нам, Беларусам, не нам
З сваімі людзьмі калаціцца —
Расейскім і польскім панам
У батрацкую службу згадзіцца!
Пара, Беларусам, пара
Для роднага краю старацца,
Для Волі, Свабоды, Дабра,
За шчасьце Народу змагацца!

1922 г. Ј. Л.

# Адраджэньне.

Касьцер гарыць, агонь пылае
Нясе ўсюды блеск і сьвет
Кругом дружына_маладая
Прыймае дзедаўскі завет.

Ня дождж ідзе, шапочуць ветры,
Праснуліcь палі і лясы,
Дрыжаць, трасуцца багны, нетры,
Устрачаюць новыя часы

Усе, усё устае на ногі
Зганяе прошлае як дым...
Імкнецца, рвецца да дарогі
Куды? чаго? на што? зачым?

Агонь шыбае вышэй, вышэй
На небе сьвеціць як зара.
Усё прыцягае, усё калыша.
Пара прышла, прышла пара

І слова дзедаў раздаюцца.
Усяляюць моц, пышаць красой
І сьлёзы радасьці ліюцца
На землю срэбнаю расой.

Прага, 1. XI 21 г. І. Д.

# Мінор.

Аб чым пяяць магу?
Дзе тоны падбяру?
О, ня зьвініць струна,
Спакойна ліра сьпіць.
Там на двары вясны

Жыцьцё ідзе, жыцьцё,
А холад на душы,
А сэрцэ, як бы лёд.
А крыльлі дзе маі?

Апалі да зямлі
Ня рвецца сэрца ўвысь
Маўчыць зусім душа...
Надзея зарасла

Пякучай крапівой,
І сьвет, якбы ня сьвет
Жыцьцё, як ня жыцьцё.
Збаўленьне дзе найду?

Няўжо яго няма?
Няўжо патух агонь
Няўжо зацьміўся сьвет?
Гэй, стой, маўчы душа,

Ня муч сябе ня муч—
Зярняты у зямлі—
І будзе будзе ўсход.
Надыйдзе красны май,

Надыйдзе блеску час,
І краскі зацвітуць
На полі дзіўна так.
На полі дзіўна так,

Прыйдзе, прыйдзе яно,
Прыйдзе, прыйдзе сьвятло
І струны зазьвіняць
І сэрца запяе.

І. Д.

◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎◎

# З лірай

У людзкім жыцьцёвым віру
Я месца не знайшоў
Вазьму сяброўку-ліру
Запомню ўсё ізноў.
Заграй, мая ты ліра,
Я падпею у тон—
З табой, прызнацца шчыра,
Жыцьце—салодкі сон.
Ты што пяеш?.. Пра сонца,
Ды дзе ж яно? Нямя!
У нашай у старонцы
І холад і зіма...
Вясёлая ты ліра—
У мяне ж на сэрцы сум
Ня роджан я для піру
Тут бачу толькі глум.
Сяброўка, я з народа,
Туды з табой пайду —
Ня грэе там прырода,
Запейма ж пра жуду.
У людзей вясна імчала,
Красу... Прыгожы май...
Надвор'е ўсе пяяла,
Шумеў, сьмяяўся гай...
А сонца так сьвяціла
Нясло цяпло людзям...
Каму было ня міла?
Але ці нам? Ці нам?
Там груганы у сіле
Сяброўка ты мая
І ўсю красу закрылі
І песьні салаўя
Так хай рагочуць шчыра
Каму вясёла так,
А мы заплачам ліра
А люд наш небарак.

І. Д.



# Хворыя людзі.

Есьць кветкі на сьвеці, каторыя сваей пекнатой і дзіўна прыгожым пахам вабяць да сябе кожнага, хто хоць крыху мае пачуцьця золотыкі і пекнаты. Кэтыя кветкі — краса прыроды, бо тру-Гна найсьці нешта больш прыгожая, а рамантыкі часта называюць іх кветкамі даханьня. І упіваюцца людзі пахам гэтых кветак, а пекната іх, часта дае змучанай душы дзіўны супакой. Есьць кветкі, каторыя не надта пекны, бяз паху і канчаюць свае існаваньне нікім ня прыкмечаныя і такіх кветак найбольш на сьвеце аднак карысьць з іх невялікая. Далей ёсьць кветкі зусім ня пекныя, праціўна пахнучыя, часта ня приступныя,--бо калючыя,--каторыя апрача атруты нічога ня маюць. Староніцца ад іх усё жывое, адварачваецца і чалавек. Называюць іх часта дзікім зельлем кветкамі сьмерці.

Нешта апалегічнае спатыкаемо і у жыцьці людзей. Есьць людзі, каторыя сваей ахвярнасьцяй да грамадзкае справы, сваей шчырасьцьцю каторай таварышыць вялікая любоў, твораць цуды, вядуць людзей да праўды, да лепшага дабрабыту, бо зразумелі яны сэнс жыцьця сваім непаспалітым розумам зьвяртаюць на сябе вочы, шырокіх кругоў, становяцца на чале людзкага поступу і гэтым твораць сабе безсьмяротыя памятнікі. О, гэта вялікія людзі Гэта людзі жыцьця.

Далей ёсьць людзі, каторыя замкнулі сябе у цесныя рамкі свайго эгоістычнага „я"згоджаюцца з усякім укладам жыцьця, самі ня твораць нічога, прытасоуваюцца да абставін і каторым ня таварышыць ніякая вышэйшая думка. Жывуць яны для сябе, бяруць з жыцьця усё гатовая, але шкоды вялікай яны не прыносяць. Урэшце ідуць людзі, німаючыя перад сабой ніякай мэты, каторыя хацеліб жыць коштам другіх, каторыя бачаць адно зло на сьвеце і каторым ні товарышыць ніякая любоў, ніякі вышэйшы ідэал. О, гэта няшчасныя людзі-Хворыя людзі. Хворыя кажу, бо як тыя кветкі сьмерці, як тое дзікая зельле паганяць яны пекнату жыцьця. Хворыя хранічна, рэдка вылечальныя. Кожны народ мае гэткіх людзей, мае, як пракляцьце, як зло з каторымі змагацца трэба і бяда таму народу, каторы мае людзей такіх за многа. І мы Беларусы, тожэ такіх людзей маемо. Сягоньня, калі у ўсіх верных сыноў Нашае Бацька ўшчыны ёсьць адна мэта, Незалежнасьці Беларусі, гэты найвялікшы ідэал нашай свабоды, гэтыя нікчэмныя людзі пачалі сваю агідную работу. Выпаўзлі яны з сваіх юрт, і атрутай сваей хочуць адвярнуць нас ад нашага ідэалу, хочуць апаганіць у ваччу нашых суседзяў. А які трагізм паўстае у душы, калі да нас даходзяць чуткі, што гэтай нікчэмнай справай займаюцца студэнты. Студэнты наагул, а беларусы студэнты у часнасьці. Студэнты — моладзь, гордасьць грамадзянства, чы гэта ні іронія лёсу?! І пачалі яны займацца брэднямі і валіць на наш студэнцкі саюз, на нашу маладую арганізацыю незаслужаныя дакоры, каб скампрамітаваць, каб выдумаць выснаваць у сваей хворай псыхолёгі адваротнасьць нашай працы, сапсуць нам апінію. А мы што на гэта? Дык зняйце, здраднікі і дэгэпэраты! Дзьверы для вас адчынены, каб выйсьці з саюзу. Бо, калі вы запісаліся у нас „беларусамі" то пачулі, што інакшай працы апрача беларускай, у нас ня будзе, што плёткамі займацца ня думаем, што аддзел „дэфэнзывы" мы ня створым і сэкцыі саюзу „Архангела Міхаіла" ня адчынім. А цёмнай вашай работы ня сьцерпім. Мы будзем змагацца, каб пад імем Беларускім ня падшываліся ліхадзеі і здраднікі і ня толькі у асяродку саюзу сярод студэнцкай моладзі, але і вонках сярод усяго беларускага грамадзянства. Усе гэтые нікчэмные людзі гэта атрута для адраджаючагася нашага народу, бо яны сваей чартоўскай працай, муцяць супакой у людзей слабай волі, пераліцоўваюць іх на свой бок і гэтым павялічваюць свой кадр. Ня верце здраднікам! А калі запала у душу каму колечы нейкая сумлеўка што да нашай працы, няхай зацікавіцца бліжэй гэтай працай, а ўбачыць з якой ахвярнасьцяй людзі працуюць; гэта ні аднога змусіць кінуць пракляцьце людзям злой волі а калі празываецца сынам Беларусі і верыць у наш Народ то будзе горда трымаць штандар бела-чырвона-белы на каторым крывавымі літарамі, мазалістай рукой нашага селяніна выпісаные словы: „Няхай жыве Незалежная і Неподзельная Беларусь!"

**А. Пакуцкі.**



# Алеся.

## З „Васеніх Казак“

I

Ахвяровываецца Т.

Прыйшла восень...

Халодная, дажджлівая... сумная.

Цяжка ўздыхала прырода аб мінуўшых часах вясны і летка і таскліва закручываючыся у стары і порваны плашч хмур, — панура схіліла сваю, абволочанную думкамі — галаву...

Аб чымсьці сумна шапоцелі лісьця...

Часамі буйны ветрык налетаў на іх, перешкаджаючы іх тасклівому і гаротнаму гоману, і, паслухаўшыся старых і заўсёды новых іх казак, — адлетаў парыўкам ў даль, спеваючы сваю цягнучую за душу, заунывную песьню.

Падалі лісьця.

Безвольныя, безсільныя, страціўшыя сваю прыгожасьць і красу безропатна падалі яны на землю і ціха, безгучна уміралі. А там на верху, другія лісьця, яшчэ жывыя ў роспачы глядзелі на землю і чакалі сваей сьмерці. Праходзіў час і падалі яны засцілаючы поле жывым сымболем сьмерці.

Уздыхало цяжкае небо...

Гаротныя думкі, сізымі і чорнымі хмарамі засцілалі его твар і часамі, калі яны прыймалі ўсё больш і больш выразны характэр суму і роспачы, — плакало ціха, безнадзейна — маленькімі і частымі сьлёзінкамі.

— Аб чым магло ўздыхаць небо?..

— Аб чым яно магло ліць сваі безнадзейна-тасклівыя сьлёзы?

Гэтага ніхто не ведае...

Ведае можа толькі вецяр, які па начам зацягівае у каміні сваі манатонна-заўнывныя песьні, — ды яшчэ пажаўцеўшыя лісьця дрэў, сумна шапочучых перад падыходзячай сьмерцяй...

. . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . .

Была ноч...

Вецяр гучліва рваўся праз вакно, ў хату, а дождж як якісьці заўзяты барабаншчык сымфонічнага аркестра прыроды, выбіваў на шыбах сваю мэлёдію і, зліваючыся з маленькімі капелькамі паўзучых па акеніцах, — безсільна спускаўся на пачарнеўшую землю...

На дварэ было пуста і адзінока...

Часамі ад моцнага парыўку ветра стукалі у сьцены дрэўняныя акеніцы і сваім стукам як бы гаварылі жудаснае „Memento mori.“

Падыходзіў час поўначы...

. . . . . . . . . .

У маленькім пакоічку сядзеў малады мужчына і чытаў.

Адзінока сьвяціла яму сьвечка, стаяўшая каля яго на стале і, дрыгочучы сваім жоўтым пломем, — бедна асьвешчала яго согнутую над кніжкаю постаць.

Ен чытаў якуюсьці навучную кніжку аб чалавецкай душы і захоплены зьместам яе, зліўся галавою і сэрцам з думкамі аўтара...

. . . . . . . . . .

Але свістаў на дварэ вецяр, гучна стукалі акеніцы і часамі ўсё гэта перашкаджала роўнаму руху яго думак.

Ен адкінуўся на сярэдзіну крэсла...

І задумаўся...

Рожныя былі яго думкі...

Ен думаў аб жыцьці, аб несьмяротнасьці чалавецкай душы, — аб каханьні...

Павольны рух думак завёў яго у дзядзіны раньней моладасьці і ён стаў успамінаць вясну свайго жыцьця...

. . . . . . . . . .

Шапацелі на дварэ лісьця...

У сваім дзіўным гомане яны штосьці безгучна апавядалі, — і у іх апаведаньні тварылася якаясьці фантастычная казка жыцьця, — якую людзі называюць першым каханьнем.

Вось — аб чым шапацелі мэлёдыйна засохшія, восенія лісьця — вось.. — аб чым гучна пяяў у каміні ветяр.—

. . . . . . . . . .

— Помніш, як даўно, даўно—тады як ты быў заўсім малады, у сваей раньняй моладасьці ты спаткаўся з адною дзеўчынай...

Яе клікалі Алесяй...

— Помнішь, як у адзін дзень гэта было ранняй вясною, калі сонцэ весело сьвяціло з неба і сваім яркім сьветам радавало усю прыроду, — ты выйшаў у поле. Сьмяялася маленькая траўка, вышаўшая недаўна з глыбокай і сырой зямлі, сьмяяліся звонкія птушкі і сьмяялася усё, што дыхала паветрам, — што хацела жыць і радавацца...

I ты спаткаўся з ёй...

Яна йшла з поля...

Чырвоная хустачка, у катораЙ былі завязаны яе доўгія косы, вясела развевалася па ветру і прыгожа выдзеляла яе цёмныя вочы..

Караткая самадзельная спаднічка паказывала прыгожыя, босыя ножкі, — а белы кужельны каптанік гладка аблягіваў яе стройны стан.

Яна йшла і штосьці пяяла..

Параўняўшыся з табою яна сьціхла і пачырванела..

I апусьціла вочы..

. . . . . . . . . . .

Праходзіў час..

Усё больш і больш яна захаплівала цябе сваею прыгожасьцю і ты стаў шукаць з ею спатканьня...

Яна не чужынілася і прыходзіла...

Прыходзіла проста, аткрыта, — глядзела на цябе сваімі вялікімі, бoскімі, поўнымі ня жыцёвай добраці, вачамі і гаварыла...

— — — — — —

У суботу, або у нядзельку — зьбіралася разам з хлопцамі і дзеўчатамі і хадзілі у вёску на гуляньне...

I ты скакаў толькі з ёю...

А там йшлі разам да хаты: — хлопцы выкідывалі рожныя штукі, — і ўсем гэтым была весёлая і горачая кроў маладой душы і сэрца...

Так прайшло два гады...

У сваім сэрцы ты чуў, — што ня можэш жыць без Алесі, — штосьці новае увайшло у тваё жыцьцё — і ты зразумеў, — што гэта было каханьне —

— Першае, маладое і сьвятое...

— — — — — —

— — — — — —

II

Дагарала сьвечка.

Сьціхла мелёдыйнае шапаценьне лісьцяў...

На душы было сумна...

Новыя абразы закруціліся у яго галаве...

Успомніў ён, як вайна адарвала яго ад сваей Бацькаўшчыны, як каля чатырох гадоў павінен быў знаходзіцца сярод чужынцаў, як страціў на доўгі час аб'ект свайго першага, маладога каханьня.

У першую пару, ён за'сёды думаў аб ёй, праводзіў доўгія, безсонныя ночы у думках аб Алесі і часта яго агартывала роспач...

Але час праходзіў і рабіў сваё..

Новыя абразы сталі захапліваць яго душу; — ён станавіўся большым і разумнейшым.

Яго мозг і душу сталі запаліваць новыя шляхі, новыя мэты жыцьця — ён стаў запомінаць аб Алесі.

I запомніў яе...

Новы круг знаёмых дзеўчын панавалі у яго сэрцы, дзеўчын культуры горада і яго цывілізацыі. I ён забыўшы аб першых пачуцях моладасьці,—аддаўся новым дарогам жыцьця...

Горад зьмяніў яго.

Вырваў з каранём его ідэалістычныя думкі вёскі і ён стаў глядзець на жыцьцё больш паважна, больш зразумелымі вочыма, — больш аддаваўся інтэлектуальнай працы...

Ён гатовіўся да вышэйшай навукі...

Але яго цягнула да Бацькаўшчыны.

Хацелася яму пабачыць сваю родную старонку, поля яе лясы і пры першай магчымасьці ён выехаў да яе...

I зноў старыя абразы перад ім, ізноў ён успомніў раньнюю моладасьць і сваё першае каханьне...

I захацелася яму пабачыць Алесю...

— — — — — —

Гэта было у суботу...

Пасьля вячэрні у царкві, народ вялікім тлумам валіў по рожных дарогах да хаты і аб чымсьці гучна гутарыў...

Бабы у сваіх рожнакалёрных андараках і вялікіх хустках на галаве йшлі асобна маленькімі гурткамі і гаварылі між сабой аб сваіх дамовых справах...

Дзеўчата і хлапцы йшлі разам.

Здалёк быў чуваць іх вясёлы сьмех, — а вышаўшы за мястэчко, — нат і песьні...

Ён йшоў адзін...

Ён ня мог прылучыцца да іх, — мо нат і хацеў, — бо усе з боку угледаліся на его студэнцкую форму... і кепска сябе чулі у яго кампаніі...

— Ён быў „абразованый“... ён быў панскім сынам...

Душа яго была з імі, — але думкі далеко, далеко...

Ён думаў аб навуцы, мастацтві... аб горадзі...

Пацягнула яго т ды. Хацелася пабачыць тэатры, — паслухаць добрую музыку, а прад усім пагаварыць за сваімі таварышамі і добрымі, абразованымі дзеўчатамі.

— — — — —

Ішлі цераз лес...

Цёмны, хмурны вырас ён перад яго вачыма, — якісьці дзіўный і загадачный.

Ужо далеко былі галасы хлопцаў і дзеўчат і ён амаль што не быў ўсім адзін...

І аддаўся сваім думкам...

У перадзі яго йшла якаясьці жаноцкая постаць, закручаная у якісьці вялікі шалік і па яе рухам відаць было, што яна даганяла сваю кампанію...

Ен зьвярнуў на яе увагу...

Штосьці знаёмае чуділася яму у рухах гэтай постаці — і ён стаў даганяць яе...

Яна пачула даганяючыя шагі і абярнулася...

Щтосьці заказытала его сэрца, — кроў прыліла да галавы і ён пазнаў Алесю...

— Алеся!... крыкнуў ён і дагнаўшы прывітаўся...

Яна зачырванелася, і ад такой неспадзеўкі — ні магла сказаць ні аднаго слова...

Потым апрытомнялася і стала гаварыць, пытацца і разсказываць...

Дрыжаў яе чагосьці голас, — думкі перарываліся адна, другою і была відаць на яе твары што яна моцна узрушана гэтым спатканьнем. Чатыры гады!..

— — — — —

А потым сядзелі разам на беразі Нёмна... Сярод ціхай ночы, — па малу, бязгучна плыла шырокая рака...

Дзесьці далёка, далёка пераклікаліся кулікі, — а з вёскі няслісе вясёлыя гукі музыкі і пеяньня дзяўчат...

Ціха шапацелі каля берага лазовыя кусты, — ды часамі у халодных хвалях усплесківалася сонная рыба...

Алеся квола прытаіўшыся да яго сядзела і разсказывала а сваім жыцьці...

Яна гаварыла аб тым, як страшэнна у гэтыя чатыры гады, сумавала — як заўсёды думала, аб ём як цяпер павінна выходзіць замуж за нелюбімага чалавека...

— — — — —

У парыўку страсьці яна кінулася яму на шыю і стала моцна, горача цалаваць...

З затуманенымі вачыма яна гаварыла, што яна ужо даўно і моцна любіць яго, — што яна ня можа без яго жыць, — што ён для яе усё-усё...

І цалавала доўга, — а потым плакала...

Плакала ад шчасьця...

— Сягоньня ты мой... сягоньня я цябе нікому не аддам, — і цалавала усё гарачэй і гарачэй...

Я нехачу, каб ты ажаніўся на мяне, — ты абразованый, — табе трэба другіх, — лепшых, дзеўчын, — а я цёмная, неграматная...

Але сягоньня — ты мой...

І цалавала... і плакала.

А потым аддалася яму...

— — — — —

Весяло пеялі на вёсцы дзеўчаты, — данасіліся гукі музыкі...,

Стаяў задуманны, чорны лес і хаваў у сабе неразгаданую, цёмную тайну.

Ціха плыла рака.

— — —

— — — —

Патухла сьвечка.

У маленькім пакоічку можна было відзець сагнутую постаць мужчыны каторы палажыўшы галаву на рукі, — сударажна плакаў і праліваў горькія сьлёзы.

Гэта былі сьлёзы разачараваннасьці у жыцьці, — сьлёзы абманутай надзеі сьлёзы утрачанага першага, маладога сьвятога куханьня.

Было цёмна.

— — — — —

Ішоў дождж і у мокрыя шыбы акна выбіваў сваю таскліва-манатонную трэль.

Стукаў акеніцамі вецяр, — і сумна прыпамінаў людзям жудаснае „memento mori“ —

Была восень...

**Л. Леўскі**

# ВОЛЬНАЯ ТРЫБУНА.

## Каханыя Студэнты Беларусы!

Патрапіла ў мае рукі Ваша часапісь „Наш Шлях“, і даўно я не адчувала гэгакой радасьці, як ч таючы адзін за адным вумныя, шчырыя, сардэчныя вашы артыкулы. Усё чыста міла і хапае мяне за сэрца, асабліваж дзякую Радзімічу, М. М. Дрыгўновічу ды Маркотнаму. Бачу я, што думкі каханае моладзі, нашае надзеі на будучыню, запраўды скіраваны да найлепшае, наймудрэйшае мэты, бо шлях „самавыхаваньня“ і працы на шчасьце свайго гаротнага народу ёсьць адзіным верным шляхам. Так, дарагія хлапчукі, так! Нясьці асьвету да беларускае вёскі, да беларускае хаты, маладым „каханьнем развеяць туман“, ня чурацца роднае мовы, ня чурацца сярмяжных свзіх братоў, сеючы асьвету— разумную асьвету, бо ёсьць і шкодная асьвета, якой, Богу хвала, дагэтуль народ яшчэ ня ведае—гэта праўдзівы шлях і хай жа вам Бог памагае ў сьвятой гэтай працы. Дзіўлюся я, што вы—такія малодыя ўжо гэткія вумныя, што бачыце шкоднасьць сьляпога нацыяналізму ды шовінізму.

Шчыра, цэлым сэрцам я люблю беларусаў, якіх—разам з літоўцамі—уважаю за адзіных праўных валадароў каханага, пекнага але шматпакутнага нашага краю; так адзінапраўных адвечных валадароў, якім усе чыста пазьнейшыя прыбыльцы—ці гэта палякі, ці немцы, ці жыды, ці маскалі, павінны служыць верай і праўдай за шчасьце жыць у тым мілым краі, дышаць яго паветрам, жывіцца яго хлебам, захапляцца яго пекнасьцямі! Шчыра іх люблю і шчыра веру ў іх будучыню: хай з-за іх грызуцца ды б'юцца вялікія сільныя гэтага сьвета, хай з-за іх лаюцца ды сварацца конфэрэнцыях ды конгрэсах! Вы тымчасам будзеце сеяць зярнё асьветы, зярнё праўды й любові, і нагарадай за сьвятую вашую працу будзе—не сёньня ды ня заўтра, быць можа калісь па двухтрох пакаленьнях. — Ліга Народаў нарэшце прызнала беларусам іх палітычныя правы, бо знойдзе іх „сьпелымі“ да самастойнасьці, сьпелымі з прычыны іх працавітасьці, сумленнасьці, пачцівасьці, рухлівасьці, лагоднасьці ў абхаджэньні з іншымі жыхарамі свайго роднага краю з прычыны адсутнасьці ў іх абрыдлівага шовінізму й ненавісьці да суседаў за адсутнасьць „пазураў і вострых зубоў“ за прыродную іхнюю дабрату й „лёгкія крыльля душы“.

Заўсёды, калі мне ў дум прыходзяць словы Хрыста з нагорнага казаньня, што „міралюбівыя будуць валадаць зямлёй“, адначасна я думаю аб беларусах! Так, ня будучы па крыві беларускай, я падчас бальшавікоў запіса ася „беларускай“ бо люблю беларусаў—усё у іх мне ёсьць зразумелым, сымпатычным, мілым, навет іхнія недахваты! Вельмі часта напр чуваць, што беларусы вялыя, нерадзівыя ці нядбалыя, што яны ня маюць энэргіі, ўсяго чыста палохаюцца і т. д. Тады я моцна лаюся ды даваджу, што шматвяковая паднявольнасьць а крыўда ў беларусе вырабіла пэўную йнэртнасьць, апатычнасьць, бо толькі гэная йнэртнасьці яго бараніла ад заглады пад націскам ворага ці пад ярмом крыўдзіцеля. Таксама я заўсёды даводжу, што надмерная асьцярожнасьць беларуса, яго павольнасьць (вельмі люблю мудрае беларускае „почахаўшы“) тлумачацца праз векавое пасыўнае змаганьне з сільнейшымі. Нядаўна я знайшла ў Гётэ слоўка, якое зараз-жа дастасавала да сваіх каханых беларусаў: «да флегмы будзе належаць сьвет». Вось, уцешылася я быццам вялікі немец гэта ўмысна казаў аб беларусах: штож скарысталі нефлегматычныя, гарачыя, вялікія, магутныя, адукаваныя народы ў гэтай вайне? затапілі сьвет у моры крыві, спустошылі шмат краёў, зьніштожылі нялічныя скарбы матар'яльныя ды духоўныя й, што гарэй, культурных навет людзёў зрабілі „галоднымі ваўкамі“. Цяпер жа, па вайне, ўсе яны сядзяць на сваіх грузах альбо на сваіх здабытках, залечваючы свае раны, ды ваўком глядзяць адзін на аднаго, ніхто ўжо ня верыць суседу, ўсе дрыжаць ад страху ці ненавісьці, бо ўсе ведаюць, што, пасеяўшы вецер, будзеш зьбіраць буру; што міру няма дый і ня будзе, пакуль пануе гвалт, несправядлівасьць, лгарства й себялюбства, як карэнь усіх чыста бед і няшчасьцяў... А тымчасам дабрадушны, ціхі, лагодны, цярплівы беларускі нород, нікога на сьвеце ня крыўдзячы, нікога ня лаючы, будзе ціха а спакойна працаваць на залітай крою ворагаў ніве ды дзеці яго, дзякуючы Вам, каханыя маладыя хлапчукі, вам што сваім каханьнем хочаце разьвеяць густыя туманы, якія вісяць над бацькаўшчынай і засланяюць сонца, вырастуць на пацеху сваім бацьком ня толькі добрымі а

дзгоднымі, але таксама й адукаванымі ды разумнымі. Дабрата сама па сабе ёсьць вялікай, магутнай сілай, але злучаная з мудрасьцю ды вучонасьцю яна мусіць паканаць увесь сьвет. Вось мае пераканаsuccessful: будучыня належыць да Вас, бо беларусы ў сэрцы сваім у душы сваёй валадаюць найвялікшай тайнай панаваньня над свветам — **д а б р а т о й**. Пакуль што дабрата ваша яшчэ несьвядомая, і сьвет ня ведае пабеднае яе сілы: шмат хто ўважае дабрату за слабасьць, бо розум хіба сілу кулака, сілу аружжа, вы жа, ідучы шляхам каханьня і працы ды асьветы патрапілі на Божаскі шлях, што нарэшце прывядзе да царства міра а згоды, замест да царства ваўкоў ці тыгрысаў, якіх устрымоўвае толькі ўлада, яшчэ больш за іх акрутная ды страшная.

Усім, усім вам кланяецца стары друг

**А. Р.**

## Беларусы ў Латвіі.

У паўднёва-усходняй Латгаліі і Курляндзіі (паветы — Люцынскі, Рэжыцкі, Дзьвінскі і Ілукстскі) жывуць як нацыянальная меншасьць у Латвійскай Рэспубліцы, 70.000 беларусаў.

Карыстаюцца яны, як і ўсе нацыянальныя меньшасьці ў Латвіі правам нацыянальна культурнае аўтаноміі і маюць свае нацыянальныя арганізацыі, ўстановы і школы.

З боку грамадзкага аб'еднаны яны ў Беларускім Культурна-Прасьветным Таварыстве „Бацькаўшчына", якое мае Цэнтральнае Праўленьне ў Дзьвінску і 15 аддзелаў у правінцыі.

З боку Дзяржаўна-Урадовага—інтарэсы іх бароніць Беларускі Аддзел пры Міністэрстві Прасьветы Латвіі. Кіраўнік гэтага Аддзелу карыстаецца правам Таварыша Мін-стра і яму падпарадкаваны беларускія школы і іх інспэктура.

Усяго ў Латвіі беларускіх школ нчлаіваецца:

50—пачатковых 4-х клясовых, з двумя падгатоўчымі клясамі, 6 гадоў навукі.

5—пачатковых 6-ці клясовых, з 8-ю гадамі навукі,

2—гімназіі, (у Дзьвінску і ў Люцыну),

1—гадавыя вучыцельскія курсы, з паказацельнай пачатковай школай пры іх,

1—селска-гаспадарская школа, з 2-х гадавым курсам.

Вучыцца ў гэтых школах больш 4000 беларускіх дзетак.

Выкладаюць навўку 105 вучыцялёў.

На чале Таварыства „Бацькаўшчына" стаіць гр. Ян Харлап.

Беларускім Аддзелам пры Міністэрстве Прасьветы кіруе гр. Сяргей Сахараў.

Інспэктурай Беларускіх Школ ведае гр. Канстантын Езавітаў.

* * *

19 і 27 мінулага чэрвеня ў Латвійскім Сойме разглядаўся буджэт Беларускага Аддзелу на 1922-23 вучэбны год.

На ўтрыманьне Беларускага Аддзелу, 2-х Беларускіх Гімназіяў і Вучыцельскіх Курсаў адпушчана 2.200.000 латвійскіх рублёў.

Беларускія пачатковыя школы, як і ўсе іншыя пачатковыя Рэспублікі, ўтрымліваюцца з коштаў мейсцовых Земстваў і самаурадаў.

Сельска-Гаспадарская Школа ўтрымліваецца коштам Таварыства „Бацькаўшчына" і пасобіямі ад Міністэрства Земляробства, якое адпускае Т-ву на гэту справу да 200.000 рублёў у год.

Адносіны Латвійскага грамадзянства і Ураду да беларусаў — добрыя.

Як іскравый прыклад гэтага можа сьведчыць той факт, што, калі пры абгаварываньні бюджэту Беларускага Аддзелу адзін з латгальскіх клерыкалаў, дэпутат Кэмп, унёс прапазыцыю выкрэсьліць крэдыты на Беларускі Аддзел, дык на яго з абурэньнем абрушыліся дэпутаты ўсіх фракцыяў і прапазыцыя яго была рашуча ўсім Устаноўчым Соймам **а д к і н у т а**. Сказаныя пры гэтым некаторымі дэпутатамі, ў нашу абарону, прамовы гэтулькі для нас цікавы і важны па сваіму зьместу, што Т-ва „Бацькаўшчына" пастанавіла выдрукаваць іх асобнаю кніжкай. Асабліва цікавы і грунтоўны прамовы: гр. Райніса, які прачытаў Сойму цэлую гадзінную лекцыю па беларускаму пытаньню, гр. Сейль—Таварыш Міністра Прасьветы, і расейскага дэпутата гр. А. Бочагова.

Кастусенак.

10. VII. 22. Латвія.

## Аб Камісіі Кваліфікацыйнай.

Сусьветная вайна надта скрывіла этыку моладзі, выбіўшы моладзь з натуральнай калеі і нічога дзіўнага што людзі страляючы 7 гадоў у людзей страцілі усякую этыку. Мала таго вайна змарнавала шмат часу, таго лепшага часу поўнага жыцьця і энэргіі, але і сярод калегаў утварылася арганізацыя, каторая паміма права, шмат каму з не палякаў не дала магчымасьці праз навуку ў вышэйшай школе направіць

скрыўленую этыку. За што бярэ на сябе вялікую адказнасьць. Мова тут аб Камісіі Кваліфікацыйнай.

Ня буду тут гаварыць шмат аб яе паўстаньні і аб тых крыўдах, якія зрабіла не палякам, ды зрэшты ан ўжо год істнуе. Хачу толькі сказаць, што рабіла яна гэта проціў права як маральнага, так і юрыдычнага. Калі гаварыць аб маральным праве, то як можна было змушаць непалякаісьці ў польскае войска проці яго праканаными, калі ў душы ён не пачуваецца да гэтых абавязкаў, калі нат' яны спрэчны з яго жаданьнямі. Што іншае калі шмат каго з не палякаў і пашло ў армію ў часе інвазіі, то не каб бараніць Польшчу, але каб бараніць заходнюю культуру ад варварства ўсходняе — гэта зусім іншая рэч. Апроч таго некаторыя калегі не маглі выпаўніць свайго абавязку з тэй простай прычыны, што ня былі тады польскімі грамадзянамі, дык трудна на іх накладаць абавязкі, як чужаземцаў. Цяпер, што да права юрыдычнага, дык тут справа прост даходзіць да абсурду. І вось старшыня Р. М. А. ў аднаднёўцы Бdатняй Помачы нумар траўня 1921 г. піша так: „Wzbyt krótkim okresie, bo tylko do końca drugiego semestru, nowa R. M. A. nie mogła rzecz prosta rozwiązać szerszej działalności, tembardziej, iż sytuacja ogólna stawała się co raz groźniejszą i w dn. 8 lipca na wiecu zwołanym przez R. M. A. przy niezwykłem entuzjazmie jedomyślnie została powzięta uchwała mocą której wszyscy akademicy Polacy (Рэд. падкрэсьліла) byli obowiązani wstąpić na ochotników do wojska co też przez liczną większość niezwłocznie zostało wykonane. Uchwała ta nie obowiązywała akademików innych narodowości (Рэд. падкрэсьліла) a to ze względu, iż młodzież polska przyjmując pod uwagę specyficzne warunki naszego środowiska nie mogła i nie chciała zresztą zmuszać kolegów niepolaków do obowiązku służenia sprawie Polskiej (Рэд. падкрэсьліла) a więc do wstąpienia do wojska." І далей у тым жа самым артыкуле кал. Тадэвуш Керсноўскі піша, што пасьля інвазіі была створана „tak zwana Komisja Kwalifikacyjna która ma zadanie niedopuszenia do Uniwersytetu tych (Рэд. Палякаў) którzy nie podporządkowali tej uchwale z dnia 8 lipca i nie odbyli służby wojskowej." А відаць што напісаў кал. Керсноўскі, а ён жо быў старшынёй Р. М. А., Кам. Квал. была створана выняткова для кал Палякаў, а значыць нашто ж было вымагаць ад непалякаў службы ў войску Наша прыслоўе гаворэ: „чым далей у лес, тым больш грыбоў" і вось праз пэўны час у кал. Керскоўскага відаць наступіла эвалюцыя, ня пагледаў, а... пастановы акадэміцкага студэнцкага сходу і ў Alma Mater Vilnensis піша так: „W lecie 1920 r. wobec zbliżającej się nawały bolszewickiej młodzież akademicka zebrana w sali kolumnowej w dni 8 lipica 1920 r. przy niesłychanym entuzjazme, jednogłośnie uchwaliła obowiązkowe wstąpienie wszystkich akademików (Рэд. падкрэсьліла) do szeregów armji ochotniczej. Jako sankcją karną uchwalono wówczas , iż ci którzy nie spełnili swego obowiązku obywatelskiego i nie podporządkowali się uchwale z dnia 8 lipca, tracą prawo powrotu do Uniwersytetu". Значыць якжа пагадзіць тоя, што пісаў кал. Керсноўскі ў Альма Матэр з тым што пісаў у аднаднёўцы. Рожніцы тут сапраўды надта вялікая, а пісаў іх адзін аўтар. Аднаднёўка вышла ў 1921 г. і там ясна гаварылася што К. К. створана толькі для Палякаў, якія ня споўнілі абавязку грамадзкага, на практыцы аднак выходзіла іначэй, ад ўсіх непалякаў патрэбавалі абавязковай службы ў польскім войску, дзеля чаго шмат моладзі была недапушчана да Унівэрсытэту. Цікава чым вытлумачыць сваю дзейнасьць К. К. і кал. Керсноўскі як старшыня Р. М. А?

*Франук Маркотны.*

# ХРОНІКА.

## З нашага жыцьця.

Другі вучэбны год істнаваньня Бел. Студ. Саюзу запачаткаваны быў працай студэнтаў у выбарнай кампаніі. Ня гледзячы на цяжкія абставіны жыцьця, студэнты прынялі жывое ўчасьце ў выбарах і як ужо выясьняецца праца мела добры вынік. Найбольш працы палажылі дзеля выбараў кал. кал. Амельяновіч, Кахановіч, Куніцкі, Петкевіч, Рутковская і Малафеяў. Ужо хутка

кончацца выбары і патроху пераходзіз да працы. Прадусім трэба было склікаць сходку, каб пазнаёміць сябраў з плянам далейшай працы, гэта сходка адбылася ў нядзелю 29. X. у памешканьні Бел. Муз.-Драм. Гуртка. Пасьля справаздачы ўраду*) а сваей дзейнасьці за мінулы год быў выбраны новы ўрад на 1922-23 год, у які ўвайшлі старшыня Малафееў, віцэ-старшыня Петкевіч, сэкрэтар Марцінчык, скарбнік Мазалеўскі, сябра Грабінскі.

✦ **Найбліжэйшыя заданьня.** Культур.-асьв. сэкцыя рыхтуецца да арганізацыі у найбліжэйшым часе студэнцкай вечарыны Сцэнічна-тэатральны адзел будзе праведзены пры садзеяньні п. Ф. Аляхновіча Калегаў, жадаючч прыняць чынае учасьце просяць заявіцца.

## З заграпічнага жыцьця.

✦ **Беларуская школа у Рызе.** Беларускім упраўленьнем культ. асьветнымі ўстановамі пры Міністэрстве асьветы загадана адчыніць у м. Рызе беларускую існаўную школу з дзіцячым пры ёй садам.

✦ **Весткі з Дзьвінска.** Пры беларускай гімназіі у Дзьвінску адчынена Беларуская кнігарня.

## Да усіх студэнтаў-беларусаў.

Калегі! У кожным народзе акадэміцкая моладзь ёсьць выразам яго духаўнага імкненьня, яго сьветлых ідыялаў. Па моладзі, па яе жыцьцю, па яе духоўным запросам пазнаюць самы народ. Моладзь выяўляець народ.

Беларуская студэнцкая моладзь заўсёды была на вышыне сваіх заданьняў.

З мужасьцю прабівала яна дарогу да сьветлае будучыні, высока трымаючы свой сьцяг.

Беларуская моладзь была варта свайго народу.

Год назад у Вільні паўстала першая арганізацыя студэнтаў Беларусаў. Бел. Студэнцкі Саюз.

Шмат перашкадаў было у яго дзейнасьці. Самой главнай з іх было (на-сутрэба прызнацца) індыфэрэнтнасьць самых студэнтаў. Закапаўшыяся у сваіх асабістых інтэрэсах іх не захапіла сьвятая справа Бацькаўшчыны. Праўда такіх было мала, але такія былі. Гэтага далей ня можа быць.

Новаабраны Урад ад Бел. Ст. Саюз і зьвяртаючыся з шчырым прывітаньнем да усіх колегаў, закінутых у розныя куткі, да усіх тых, якія усюды сьмела і цьвердла спаўнулі свой сьвяты абавязак.

Гарачо заклічае да працы усіх студэнтаў, у грудёх каторых сэрца б'ецца любоўю да свайго народу, якім блізкі і дарагі інтэрэсы і судзьбіна Беларусі.

Да працы дарагія калегі.

Урад Бел. студ. саюзу.

## † ГАНА ГАРЭЦКАЯ.

У Маскве 19 верасьня 1922 г. памёрла студэнтка Разумаўскае акадэміі Гана Гарэцкая (сястра пісьменіка М. Гарэцкага) Нябошчыца радзілася 29 жніўня 1904 г. у вёсцы „Малая Багацькаўка“ Мсьціслаўскага пав. Скончыўшы пачатк. школу, вучылася ў Сярэдняй Школе у Мсьціслауле, дзе разам з іншымі пачала беларускую работу. Скончыўшы Сяр. Школу, вучылася у Сельска-гаспад. інстытуце у Горы-Горках, дзе прадаўжала сваю працу на карысьць Бацькаўшчыны. У Восень г. г. паехала у Маскву (дзе вучыўся брат Гаўрыла Гарэцкі) з мэтай пераходу у Сельска-Гасп. Разумоўскую Акадэмію. У пачатку верасьня па фальшываму даносу Гаўрыла Гарэцкі быў заарэштаваны і абвінавачаны за сваю культурную бел. работу у праціва Савецкай дзеяльнасьці. Усё гэта разстроіла і знэрвавала нябошчыну, тым балей што ня мела спачатку доступу да брата. Калі было дазволена завясьці перадачу 15 верасьня г. г. выходзячы на Лубянскі пляц. (мейсца памяшчэньне Чэка) была збіта трамвайным натолкам і трапіла пад трамвай плашчадкай якога была прыцісьнута. Зараз-жа папаўшы у бальніцу скончалася. У гэты час быў выпушчаны брат які яшчэ дасьпеў яе забачыць паміраючую.

Увесь час студэнты — калегі, былі яе роднымі братамі, на руках якіх яна і памёрла, якія самі яе пахавалі на Галовінскім жаночым Манастыры. На магілу паложаны вянок „Ад студэнтаў-землякоў—дарагой сябраўцы“ Супакой тваіму праху дарагі таварыш.

Хай нашае спачуцьцё здалёкага далёка будзе яшней кветкай на тваю дарагую магілку.

*) У наступным нумары „Нашага Шляху“ рэдакцыя пастараецца даць дэтальную справаздачы аб культурнай дзеяльнасьці Гуртка за мінулы год.

Адказны Рэдактар Л. Мазалеўскі. Выдавец—Бел. Студ. Саюз
Друкарня „ДРУК“ Субач, 2.

# Ад рэдакцыі.

*Дзеля трудных матэрыяльных варункау, рэдакцыя паведамляе Паважаных Чытачоу, што штомесячнік „Наш Шлях“ будзе часопісяй непэрыадычнай.*

*Чатверты нумэр не быу выданы у летку ад варункау ад рэдакцыі незалежных.*

*Рэдакцыя зьвяртаецца да усіх студэнтау-Беларусау, мясцовых і заграічных з просьбай аб прысланьні рукапісау, інфармацыяу аб жыцьці культурна-асьветным і грамадзкім, абвэстак і г. д. Рэдактар прыймаець інтэрасантау ад гадз. 10-12.*

*адрэс рэдакцыі:* **POPOWSKA 6.-3.**

*Няпрынятыя у друк рукапісы не зварочываюцца.*



**P. S** *.Артыкул аб Кам. Кваліф. ня унесен быу у змест № 4, дзеля таго што атрыманы крыху пазьней па надрукаваньні зьместу.*